# Рэгіянальная газета

1 лістапада 2013 года
№ 44 (966)

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".







**навіны рэгіёна**

## На Вілейшчыне пачаўся дабрачынны марафон

**ВІЛЕЙКА.** Ад 1 лістапада ў Вілейскім раёне праходзіць штогадовы дабрачынны марафон пад дэвізам "Рабі вялікае, не чакаючы вялікага". Прымеркаваны ён да Міжнароднага дня інвалідаў і будзе доўжыцца да 3 снежня. Ініцыятар марафону – тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Пералічаныя на рахунак грошы будуць накіраваныя на аказанне дапамогі інвалідам – у тым ліку на закупку медыкаментаў, сродкаў гігіены і іншае. Разліковы рахунак: 3642063200107 у ЦБУ №632 г. Вілейка ф-ла №601 ААТ "Ашчадны банк "Беларусбанк" у г. Маладзечна, код 769, УНП 600690567, ОКПО 29113311, ДУ "Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва" (з паметкай "дабрачынны марафон"). Інфармацыю пра іх можна атрымаць па тэлефонах: **(8-01771)-2-18-33, 3-90-72**.

## Можна паглядзець сапраўдную мэблю 19 стагоддзя

**СМАРГОНЬ.** У Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі ад 24 кастрычніка на другім паверсе працуе выстава "Міхал Клеафас Агінскі ў Залессі". У музеі можна пазнаёміцца з гісторыяй сям'і Агінскіх, самога Міхала Клеафаса, гісторыяй сядзібы і парку. Карціны, фотаздымкі і іншыя экспанаты перадаў смаргонскаму музею старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА **Уладзімір Шчасны**. На выставе таксама прадстаўлена сапраўдная мэбля 19 стагоддзя: чатыры крэслы, два мяккія крэслы, пазалочаны падсвечнік і пасярэбраныя кандэлябры. Мэблю прывезлі з Францыі. Пасля мэблю адрэстаўруюць і перададуць музею, які пачне працаваць ў сядзібе Агінскіх недзе ў 2015 годзе. Пра гэта расказала "РГ" дырэктар гісторыка-краязнаўчага музея **Любоў Белуш.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Праезд у цягніках падаражэе напалову

**БЕЛАРУСЬ.** Тарыфы на перавозкі пасажыраў і багажу чыгуначным транспартам агульнага карыстання на гарадскіх і рэгіянальных лініях эканом-класа ў Беларусі будуць павялічаныя. Пастанова ўступіць у сілу з 9 лістапада. Кошт праезду цягнікамі на гарадскіх лініях у межах аднаго тарыфнага пояса павялічыцца на 42,9% – з 3 500 да 5 000 рублёў, у межах двух тарыфных паясоў – на 27,7% – з 4 700 да 6 000 рублёў за адну паездку. Кошт праезду за 1 км цягнікамі эканом-класа на рэгіянальных лініях за адну зону павялічыцца з 700 да 900 рублёў. Таксама падаражэе праезд пасажыраў цягнікамі на рэгіянальных і міжрэгіянальных лініях эканом-класа і бізнес-класа – на 50%. Акрамя таго, дакумент устанаўлівае павышаныя тарыфы на правоз багажу і грузабагажу на гарадскіх, рэгіянальных і міжрэгіянальных лініях.

**Паводле БелТА.**

# *Сяргей Чалы:* "Долар каштаваў бы 11 500"

**БЕЛАРУСЬ. Якая рэальная эканамічная сітуацыя ў Беларусі сёння? Што чакаць ад курсаў валют? Як усё гэта ўплывае на жыхароў нашага рэгіёна?**



Фота telegraf.by.

Беларусам варта навучыцца добра лічыць грошы.

На гэтыя пытанні эксклюзіўна для "РГ" адказаў эканаміст і аналітык **Сяргей Чалы**.

**– Як сёлетняя эканамічная сітуацыя адбіваецца на заробках?**

– Практыка затрымак заробку існуе прыкладна ад другога квартала гэтага года. Многія арганізацыі балансуюць на ўзроўні "Ну вы ж разумееце". У тым, што затрымліваюць заробкі ў кастрычніку, нічога новага, гэта феномен гэтага года.

**– Гэта праблема будзе працягвацца?**

– Праблемы гэтыя ў іншым. Яны звязаныя з тым, што Урад і Нацбанк у адпаведнасці з планам сумесных дзеянняў, які яны прынялі, збіраюцца абмежаваць аб'ёмы крэдытавання. Гэта дастаткова балюча ўдарыць па тых прадпрыемствах, у якіх бізнесцыкл завязаны на крэдытаванні. Уявіце, што дзяржава забірае сваё фінансаванне, а ў вас няма абаротнага капіталу, каб плаціць сваім работнікам, але пры гэтым вы – прыбытковае прадпрыемства і маглі б нармальна працаваць.

Асноўная пагроза ў тым, што ёсць сапраўды вялікая колькасць прадпрыемстваў, якія функцыянуюць толькі дзякуючы падтрымцы, і ў рынкавых умовах ім было б зусім складана. З майго пункту гледжання, план, які склаў Урад сумесна з Нацбанкам, зусім не пралічаны на мікраўзроўні. Ёсць шмат прадпрыемстваў, якія проста спыняцца ў сітуацыі, калі абнаўляльны крэдыт стане для іх немагчымым.

Гэта не іх віна. Прычына такога становішча – яны функцыянавалі за кошт крэдыту. Крэдыт спыняецца – спыняецца фінансаванне прадпрыемства.

**– Рэформы, пазначаныя ў плане Урада і Нацбанка, трэба было рабіць хаця б у 2011 годзе?**

– Вядома, можа, нават і тры, і пяць год таму. Безумоўна, усё гэта трэба было рабіць раней. Усё, што цяпер напісана, было падрыхтавана пад прыезд місіі МВФ. Калі ўсё ж такі гэты план пачнуць ажыццяўляць хаця б часткова, то ён недастаткова і рэалізуецца пазнавата. Але лепш позна, чым ніколі.

Там прапісаны тыя рэчы, без якіх не абысціся.

**– Як вы ставіцеся да пазіцыі "нам усё роўна дадуць крэдыт"?**

– Можна карыстацца крэдытамі ці яшчэ штосьці прыдумаць, але сітуацыя такая, што гэтыя грошы ўсё адно ідуць у топку. Іх праядуць вельмі хутка. Зразумейце, пытанне тычыцца не таго, каб узяць грошы і выратаваць кароткатэрміновую сітуацыю. Задача тых, хто выдае грошы, – патрабаваць ад нас дзеянняў, якія нашы праблемы зробяць не хранічнымі, не вечнымі.

Калі нам выдадуць два, чатыры мільярды долараў – мы іх праядзім лёгка. Гэтак жа, як праелі атрыманы ў канцы 2011 года пераразлік кошту за газ, значна зменшаны. Тая перавага, якую мы атрымалі, – ну і дзе яна?

Справа не ў спробе знайсці грошы, а ў тым, каб нешта памяняць, каб выкарыстаць на прадукцыйныя рэчы.

**– Якіх перамен з рублём мы можам чакаць на новы год?**

– На пытанне вельмі складана адказаць. Першае – колькі беларускі рубель павінен быў бы каштаваць, а другое – як доўга яго рэальны кошт будуць стрымліваць.

Калі б цэны не кантралявалі, па маіх падліках, долар цяпер каштаваў бы 11 300–11 500 рублёў.

Пазіцыя Нацбанка такая: не дапусціць дэвальвацыі, усімі магчымымі сродкамі зрабіць так, каб змены курсу былі мінімальныя і кантраляваць іх. Доўга працягваць такую палітыку проста не будзе сродкаў.

### Неабходна не павялічваць зарплату

28 кастрычніка ў Мінску адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам прадстаўнікоў Міжнароднага валютнага фонду (МВФ). На ёй абмяркоўвалі ў тым ліку новы план сумесных дзеянняў Урада і Нацбанка. Як паведамляе БелаПАН, кіраўнік місіі МВФ Дэвід Хофман сказаў, што місія вітае шэраг элементаў гэтага плана. На яго думку, гэта добры пачатковы пункт, які забяспечыць "такі неабходны рух наперад".

– Неабходна рэзка скараціць рост заработнай платы і мэтавага крэдытавання – асноўных крыніц дысбалансавання, – параіў Хофман.

### Плануюць рэфармаваць эканоміку

План сумесных дзеянняў Урада і Нацбанка па структурным рэфармаванні і павышэнні канкурэнтаздольнасці эканомікі Беларусі зацвердзілі 10 кастрычніка 2013 года. Сярод пунктаў плана: удасканаленне грашова-крэдытнай палітыкі, бюджэтнай палітыкі, пенсійнага заканадаўства, аптымізацыя дзяржаўных праграм, павышэнне эфектыўнасці кіравання дзяржмаёмасцю і іншыя.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка "РГ".**
**Сяргей Чалы** – эканаміст. Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Закончыў БДУ па спецыяльнасці "фізік-тэарэтык". Ад 1994 года працаваў у Аналітычным цэнтры пры Прэзідэнце Беларусі, займаўся працай з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі. Ад 2003 года – незалежны эканамічны эксперт, фінансавы аналітык. Адзін з найбольш вядомых аналітыкаў у галіне макраэканамічнай палітыкі.

ПАСЛЯ НАПІСАНАГА

# Яўгена Харчанку знайшлі ў Маладзечне

**Смаргонскага школьніка Яўгена Харчанку знайшлі ў Маладзечне**

У сераду, 29 кастрычніка, 11-гадовага хлопчыка са Смаргоні знайшлі ў Маладзечне.

Распавядае каардынатар атрада "Анёл" па горадзе Смаргоні **Цімафей Дуброўскі:**

– Жэню знайшлі ўчора ў краме "Белмаркет", што ў Маладзечне, а 11 гадзіне вечара. Сумеснымі дзеяннямі пошукавага атрада "Анёл" і праваахоўнымі органамі Смаргоні і Маладзечна было ўстаноўлена дакладнае месца знаходжання Яўгена. Супрацоўнікі Смаргонскага РАУС затрымалі хлопчыка і вярнулі яго ў сям'ю.

Хлопчык абсалютна здаровы. Калі Жэня быў ужо ў Смаргоні, мы, як бы пажартавалі, сказаўшы яму: Можа, хопіць уже бегаць? Давай лепш да нас, у пошукава-выратавальны атрад". Жэня ў адказ усміхнуўся і сказаў: "Не. Я хачу ў МНС.

Атрад "Анёл" вырашыў зрабіць Жэню маленькі падарунак, і мы арганізавалі для яго экскурсію ў адну з часцей МНС. На твары хлопчыка стала з'яўляцца ўсмешка... Потым кавярня, піца, і ўсе разам ужо з гумарам ўспаміналі, як шукалі яго. А Жэня распавядаў нам гісторыю сваіх прыгод.

Ад сябе хачу падзякаваць каардынатару атрада па горадзе Маладзечна **Паўлу Страху**. Без яго актыўнага ўдзелу нам было б вельмі цяжка адшукаць хлопчыка. Нагадаем, што 11-гадовы Яўген Харчанка пайшоў з дому 23 кастрычніка. Роўна тыдзень спатрэбіўся, каб адшукаць хлопчыка.

**Наталля ТУР.**



Фота tut.by.

Яўген Харчанка ў Смаргонскім аддзяленні МНС.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# За тыдзень спынілі 20 нецвярозых кіроўцаў

**РЭГІЁН. Закон, паводле якога, калі кіроўцу затрымліваюць п'яным за рулём другі раз за год, то забіраюць аўтамабіль, пачаў дзейнічаць 24 кастрычніка.**

У нашым рэгіёне ад гэтага часу цягам тыдня затрымалі 20 нецвярозых кіроўцаў. Адзін з іх папаўся міліцыі за п'янае кіраванне другі раз за год.

## Ашмяны: двое

У Ашмянскім раёне паспелі затрымаць двое кіроўцаў, якія селі за руль нецвярозымі.

– Абодва яны папаліся супрацоўнікам ДАІ ў нецвярозым стане першы раз за год, – заўважыў начальнік Ашмянскага аддзялення ДАІ **Андрэй Кіркоўскі**. – Цяпер ім трэба выплаціць штраф. Таксама іх пазбавяць правоў кіравання транспартным сродкам.

## Валожын: двое

У Валожынскім раёне затрымалі двух кіроўцаў. Абодва сёлета п'янымі за рулём папаліся супрацоўнікам ДАІ ўпершыню, паведаміў старшы дзяржаўтаінспектар Валожынскага аддзялення ДАІ **Андрэй Жудрык**.

## Вілейка: трое

На Вілейшчыне толькі за выхадныя затрымалі трох нецвярозых кіроўцаў. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**.

## Астравец: трое

У Астравецкім раёне затрымалі трох нецвярозых кіроўцаў.

– Двух затрымалі ўпершыню, трэцяга – другі раз за год, – кажа начальнік Астравецкага аддзялення ДАІ **Уладзімір Александровіч**. – Адпаведна двум пагражае штраф і пазбаўленне правоў кіравання, а трэцяму – крымінальная адказнасць. Машыну не забяруць, бо пасля ўступлення закона ў сілу гэта першае затрыманне.

## Мядзел: трое

У Мядзельскім раёне супрацоўнікі ДАІ затрымалі за тыдзень трох кіроўцаў у нецвярозым стане. Нецвярозымі за рулём сёлета іх спынілі ўпершыню.

– Двое пры сабе мелі дакументы, а трэці – не, – сказаў начальнік Мядзельскага аддзялення ДАІ **Вадзім Лёвін**. – Адпаведна двум пагражае штраф і пазбаўленне права кіравання, а трэцяму – штраф і забарона займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартным сродкам.

## Маладзечна: трое

У Маладзечанскім раёне ў нецвярозым стане затрымалі трох. Такое парушэнне сёлета яны здзейснілі ўпершыню. Пра гэта распавёў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага аддзялення ДАІ **Сяргей Бартош**.

## Смаргонь: чацвёра

У Смаргонскім раёне за гэты час супрацоўнікі ДАІ злавілі чатырох п'яных кіроўцаў за рулём. Усе яны папаліся за кіраванне ў нецвярозым стане ўпершыню за год, удакладніў начальнік Смаргонскага аддзялення ДАІ **Генадзь Апанасовіч**.

**Настасся РОЎДА.**

САНІТАРНЫ НАГЛЯД

# Якія парушэнні ў вілейскім "Еўраопце"?

## Сённяшнія прадукты змешваюць з рэштками ўчарашніх

**ВІЛЕЙКА. 22 кастрычніка санітарна-эпідэміялагічная служба Вілейскага раёна правяла праверку магазіна, які належыць найбуйнейшай гандлёвай сетцы Беларусі – таварыству з абмежаванай адказнасцю "Еўрагандаль".**

Сумесны са спецыялістамі аддзела эканомікі райвыканкама рэйд выявіў масу праблем у вядучага прадстаўніка харчовага рынку раёна. Службовыя асобы прадпрыемства не заўсёды з поўнай адказнасцю ставяцца да кантролю пры вытворчасці, рэалізацыі, захоўванні, транспарціроўцы харчовай сыравіны і (або) харчовых прадуктаў – парушэнні дзеючага заканадаўства носяць масавы характар.

Пакупнікам прапануюць пратэрмінаваны тавар, а таксама тавар, які страціў свае першапачатковыя паказчыкі якасці падчас захоўвання ў краме. Кулінарная прадукцыя не рыхтуецца партыямі па меры яе попыту і рэалізацыі, дапускаюць змешванне толькі што прыгатаваных прадуктаў з рэшткамі прадуктаў ад папярэдняга дня.

Не забяспечаная пастаянная наяўнасць сродкаў для дэзінфекцыі рук работнікаў каля ўмывальніка ў цэху па вытворчасці мясных паўфабрыкатаў. Якасць чысціні абсталявання, інвентару і тары перад іх выкарыстаннем візуальна не падвяргаецца кантролю.

Органы дзяржаўнага санітарнага нагляду прыпынілі эксплуатацыю цэха вытворчасці мясных паўфабрыкатаў у магазіне да таго, пакуль яго не прывядуць у належны выгляд у адпаведнасці з патрабаваннямі гігіенічных нарматываў. Выключаныя з рэалізацыі харчовыя прадукты са скончаным тэрмінам прыдатнасці агульнай вагой амаль сем з паловай кілаграмаў. Пачаты адміністрацыйны працэс у дачыненні да вінаватых службовых асоб і юрыдычнай асобы ТАА "Еўрагандаль".

Санітарна-эпідэміялагічная служба рэкамендуе пакупнікам: у мэтах захавання здароўя неабходна звяртаць увагу на знешні выгляд прадукту, наяўнасць на спажывецкай ўпакоўцы маркіроўкі даты выпрацоўкі і тэрміну прыдатнасці прадукту.

Кантроль за станам спажывецкага рынку працягваецца.

**Наталля ЖАЎНЯРОВІЧ, галоўны дзяржаўны санітарны доктар Вілейскага раёна.**

ІМПРЭЗЫ

# У Чысці сустрэліся з Генрыхам Далідовічам

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 25 кастрычніка, у Чысцінскай сельскай бібліятэцы прайшла сустрэча з вядомым пісьменнікам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі Генрыхам Далідовічам.**

Прысутныя з цікавасцю слухалі выступленне шаноўнага госця, які натхнёна, з рамантычным уздымам апавядаў пра сваё няўдалае падарожжа па краінах Заходняй Еўропы, пра свае новыя творчыя планы і задумы.

Дзякуючы той сустрэчы чытачы даведаліся, што аўтар цяпер працуе над новымі гістарычнымі раманамі, дзе галоўныя героі – нашчадкі слаўнай Рагнедаскай бітвы. У завяршэнне сустрэчы было шмат пытанняў, у нечым нечаканых і кур'ёзных.

А потым аўтар падпісаў кнігі, якія чытачы прынеслі на сустрэчу са сваім любімым пісьменнікам. А тое, што ён любімы, сведчыць і тая цёплая і сардэчная атмасфера, што панавала ў бібліятэцы.

**Міхась КАЗЛОЎСКІ.**

ДА ПАЎСТАННЯ 1863 ГОДА

# Кнігу пра падзеі паўстання на Вілейшчыне перавыдалі

**ВІЛЕЙКА. Вілейская суполка Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры перавыдала кнігу "Падзеі паўстання 1863 года на Вілейшчыне".**

Яе аўтары – сябры суполкі **Зміцер Хаценчык** і **Дзяніс Канецкі**. Яны прапаноўваюць чытачу дэталёвае апісанне паўстання, а таксама мясцовых асоб, якія да яго далучыліся.

Другое выданне выйшла накладам 500 асобнікаў. На ўнутранай вокладцы дадалі выяву карты Вілейшчыны 1865 года. У самой кнізе большасць фотаздымкаў палялічылі.

Першае выданне выйшла накладам 100 асобнікаў.

Тыя, хто хоча атрымаць кнігу, могуць заказаць яе праз электронную пошту: vilejka.tap@gmail.com.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ЮБІЛЕІ

# Павіншавалі 100-гадовую бабулю

**МЯДЗЕЛ. Нядаўна 100-годдзе адзначыла Антаніна Жук з вёскі Плецышы.**

А 24 кастрычніка да яе завіталі павіншаваць з юбілеем прадстаўнікі ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароны і тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнай абароны насельніцтва. Уручылі падарунак, матэрыяльную дапамогу.

У летні сезон Антаніна Антонаўна жыве адна, на выхадныя да яе прыязджае дачка. А на зіму жанчына едзе да дачкі ў Мінск. Нягледзячы на ўзрост, Антаніна Жук яшчэ актыўная: напрыклад, стараецца лісце сама прыбраць.

На Мядзельшчыне на гэты момант жывуць чатыры чалавекі, якія маюць узрост за 100 год, паведаміла загадчыца сектара матэрыяльнага забеспячэння і гендэрных праблем упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне **Таццяна Грышчук**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРСЫ

# Ваша газета – з найлепшых у Беларусі

**РЭГІЁН. Ганаровае другое месца ў намінацыі "Лепшая рэгіянальная газета года" атрымала "Рэгіянальная газета".**

Уручэнне дыпломаў адбылося ў суботу, 26 кастрычніка.

Газета нашага рэгіёна саступіла толькі выданню "Інтэкс-прэс", якое піша пра Баранавічы.

Яшчэ адну перамогу газета атрымала ў намінацыі "Лепшы тлумачальны артыкул" за тэкст і інфаграфіку **Зоі Хруцкай** "Цяпло і святло пачнуць здабываць з гною", надрукаваны летась 23 сакавіка.

Арганізатары і журы конкурсу – беларуская Асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы "Аб'яднаныя масмедыі" і польскі офіс Таварыства Лакальных газет.

**Аддзел інфармацыі.**

СТАНДАРТЫ

# Перапланіроўка. Што дазволена, а што не



Фота realt.onliner.by.

Пры перапланіроўцы галоўнае – ўсё рацыянальна пралічыць.

**МАЛАДЗЕЧНА. Перапланіроўка кватэры і рамонт – зусім розныя рэчы. Спрабуючы палепшыць жыллёвыя ўмовы або пашырыць плошчу кватэры, варта памятаць пра тое, што далёка не ўсе віды перапланіровак можна праводзіць без дазволу.**

Акрамя таго, існуе шэраг работ, праводзіць якія забаронена катэгарычна. Давайце разбірацца, што дазволена перапланоўваць, а што не.

Па каментар мы звярнуліся да інжынера жыллёвага аддзела ўнітарнага прадпрыемства "Камунальнік" **Тамары Стасяловіч**.

– Па-першае, усё што можна перапланоўваць, а што не, указана ў пастанове Савета Міністраў Беларусі ад 16 мая 2013 года №384. Гэты дакумент ёсць у свабодным доступе ў інтэрнэце, таму перад тым, як падаваць заяву на перапланіроўку, уважліва пачытайце яго. Хаця да нас прыходзяць ужо дасведчаныя ў гэтым пытанні людзі. І выпадкаў, што даводзіцца забараняць перапланіроўку, амаль няма.

Усе віды работ па перапланіроўцы дзеляцца на тры вялікія групы: работы, на якія неабходны дазвол выканкама з распрацоўкай праекта. У ліку такіх работ да гэтага пункта адносіцца насціл ламінату. Не здзіўляйцеся, але змены ў канструкцыі падлогі патрабуюць распрацоўкі праекта.

Другая група – гэта работы, на якія трэба дазвол, але яны робяцца без распрацоўкі праекта.

І трэцяя група работ, якія, уласна, і не лічацца перапланіроўкай. Робяцца яны па ўзгадненні з арганізацыямі, што гэтыя работы выконваюць. Патлумачу: да такіх работ адносяцца замена лічыльнікаў вады або газу, замена вокнаў ці шкленне балконаў.

І яшчэ адзін від работ, выкананне якіх не трэба ўзгадняць. Гэта замена міжпакаёвых дзвярэй, устаноўка ўваходных дзвярэй, калі не мяняецца напрамак іх адкрыцця, устаноўка або дэмантаж антрэсоляў, замена разетак, выключальнікаў, унітазаў, рукамыйнікаў, устаноўка вентылятараў, замена ванны на душавую кабіну, мантаж нацяжных столяў.

**– А за парушэнне нормаў ці прадугледжаныя штрафы?**

– Канешне. Штрафы за няўзгодненую перапланіроўку сёння складаюць ад 10 да 30 базавых велічынь. Калі змены будуць тычыцца вентыляцыі, штрафы будуць большыя, ад 30 да 50 базавых велічынь. Вядома, пасля гэтага трэба будзе або ўзгадніць перапланіроўку, або прыбраць усе змены.

**– Якія дакументы неабходныя, каб атрымаць дазвол на перапланіроўку?**

– Па-першае, трэба напісаць заяву і падаць у выканкам наступныя дакументы: пашпарт або іншы дакумент, які засведчвае асобу, пісьмовую згоду ўсіх паўналетніх членаў сям'і на перапланіроўку, тэхнічны пашпарт, план-схему ці пералік прац па перапланіроўцы памяшкання. За афармленне заявы на перапланіроўку грошай плаціць не трэба. На разгляд заявы адводзіцца адзін месяц з дня падачы.

## Самыя папулярныя віды работ

Абапіраючыся на інфармацыю аб перапланіроўках, пагаварыўшы са спецыялістамі, я паспрабавала зрабіць так званы "топ" самых папулярных і масавых змен у перапланіроўцы.

Часцей за ўсё маладзечанцы імкнуцца сумясціць санвузел. На такое сумяшчэнне патрабуецца дазвол з выканкама і распрацоўка праекта. Як правіла, цяжкасцяў такія змены не выклікаюць. Калі вы рашылі сумясціць санвузел, будзьце гатовыя да таго, што вам трэба будзе ўмацаваць падлогу і столь. Калі ж размах вашага рамонту будзе патрабаваць задзейнічаць частку калідора ці пакоя, прыйдзецца пакласці і аб гідраізаляцыі. Памятайце, што адрамантаваць пакой выпадкова затопленых суседзяў знізу абыдзецца куды даражэй.

А вось калі ваша перапланіроўка санвузла "зачэпіць" кухню, то вымушана вас расчараваць: дазволу на гэта вам не дадуць. Не можа санвузел і харчблок месціцца "пад адным дахам".

Яшчэ адна мара гараджан – павелічэнне памеру кухні. За кошт санвузла, як высветлілася, гэта зрабіць немагчыма. Застаецца толькі прарабіць выхад у бліжэйшы пакой і такім чынам зрабіць гасцёўню-сталовую. Але тут ёсць і свае нюансы. Памятайце пра існуючае правіла: паміж газавай плітой і жылым памяшканнем павінна быць двое дзвярэй.

Пры рамонце многія "грашаць" тым, што імкнуцца па максімуме выкарыстаць вентыляцыйныя шахты, каб паставіць туды халадзільнік. А дарма. Такое самавольнае ўмяшанне пагражае вялікімі штрафамі.

А вось калі замест дзвярэй вы хочаце мець у кватэры прыгожую арку – калі ласка. Нават калі сцяна нясучая, давядзецца проста ўмацаваць арку.

І вось мы дабраліся да перапланіровкі, якая з кожным годам набывае і набывае папулярнасць. Але і незаконных перапланіровак такога плана з кожным годам становіцца ўсё больш. Размова ідзе пра злучэнне пакоя і лоджыі. Калі выявяць тое, што вы самавольна сумясцілі гэтыя два пакоі, падрыхтуйцеся аплаціць штраф… і вярнуць усё на свае месцы. Магчымы толькі варыянт уладкавання неацяпляльнага памяшкання за кошт шклення балкона і лоджыі. А пра "цёплы" пакой з былой лоджыі забудзьцеся назаўжды. Дазвол на гэта атрымаць будзе немагчыма.

"Падводных камянёў" у такой няпростай справе, як перапланіроўка, хапае. Але не спяшайцеся апускаць рукі. Дастаткова заручыцца дазволам спецыялістаў, перадаць выкананне рамонту ў рукі прафесіяналаў, і "жыллё мары" можа цалкам стаць рэальнасцю.



**Наталля ТУР.**
E-mail:
turenok_08
@mail.ru

| Курсы валют НБ РБ | 24.10 | 31.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 9 150,00 | **9 210,00** |
| **Еўра** | 12 590,00 | **12 660,00** |
| **Злоты** | 3 011,55 | **3 028,21** |
| **Літ** | 3 645,64 | **3 668,37** |
| **Расійскі рубель** | 288,00 | **287,50** |
| **Грыўня** | 1 118,81 | **1 125,99** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 9170/9250 | **9220/9290** |
| **Еўра** | 12590/12730 | **12660/12780** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 23.10 | 30.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105900 | **111500** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45000 | **45600** |
| **Ялавічына,** (выразка), 1 кг | 68000 | **80000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 22950 | **22950** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 26800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 26000 | **25000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 88000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 11650 | **11650** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8000 | **8000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | **12500** |
| **Алей** | 12500 | **12500** |
| **Маянэз**, 200 г | 4200 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 6800 | **7300** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9300 | **9300** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Капуста**, 1 кг | 2500 | **3000** |
| **Морква**, 1 кг | 4000 | **5000** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **19500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 18500 | **16500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23000 | **23500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 16000 | **16000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 18000 | **22500** |
| **Перац**, 1 кг | 12000 | **13000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 15000 | **16500** |
| **Бананы**, 1 кг | 10500 | **11500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10000 | **9500** |
| **Грушы**, 1 кг | 19000 | **17500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Праехаў метр – атрымаў год за ўгон

## Завёў, пераблытаў перадачы і ўехаў у клумбу



Фота cs411319.vk.me.

Гаспадар ГАЗа прыехаў у рэстаран, каб загрузіць выпечку з кандытарскай.

**АШМЯНЫ. Раніцай 18 ліпеня ашмянец К. на аўтастаянцы каля рэстарана "Імперыя" ўгнаў машыну.**

Аднак мужчына, завёўшы аўтамабіль, тут жа ўехаў у кветкавую клумбу і засеў. Там жа зламысніка затрымалі гаспадары машыны.

Кіроўца ГАЗа П. прыехаў у рэстаран "Імперыя" разам са стажорам, каб загрузіць выпечку з кандытарскай. У машыне не было замкоў, таму яны проста прыкрылі дзверы. Колькі П. працаваў на гэтай машыне, замкоў яна не мела.

І тут калега, кіроўца іншага аўтамабіля, сказаў, што машына П. уехала ў клумбу.

На судзе абвінавачаны К. паказаў, што правоў кіроўцы ён ніколі не меў. Жыве за кошт дапамогі па інваліднасці, дзеліць дом разам з пляменніцай.

Раніцай таго дня ён выйшаў з дому, прыхапіўшы з сабой два ключы запальвання: ад ГАЗа і ад ЗІЛа. Ён вырашыў знайсці ў горадзе машыну, на якой бы паехаў да брата ў адну з вёсак Ашмянскага раёна.

Калі трапіў у незачынены ГАЗ, завёў машыну, але пераблытаў перадачы і паехаў на задняй. І, пераехаўшы бардзюр, сутыкнуўся з клумбай.

### Асуджанаму прызначылі лячэнне

Суд па гэтай справе адбыўся 15 кастрычніка.

Паводле псіхіятрычнай экспертызы, у К. зніжаныя крытычныя і прагнастычныя здольнасці, таму падчас злачынства ён не мог напоўніцу асэнсоўваць свае дзеянні і кіраваць імі.

Суд прызнаў, што абвінавачаны, калі хацеў угнаць машыну, то не зусім усведамляў, што робіць. Суд прызнаў К. вінаватым у неправамерным завалоданні машынай і паездцы на ёй без мэты крадзяжу.

Яму прызначылі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на адзін год.

Аднак прызначанае пакаранне не будуць прыводзіць у выкананне, калі цягам аднаго года асуджаны не здзейсніць новае злачынства і будзе выконваць абавязацельствы, якія прызначыў суд.

К. мусіць прымусова праходзіць амбулаторны нагляд і лячыцца ў доктара-спецыяліста ў галіне псіхіятрычнай дапамогі.

Асуджанаму 45 год, ён ураджэнец і жыхар горада Ашмяны, халасты. З базавай адукацыяй, не працуе, не судзімы, мае інваліднасць другой групы восем год. Да таго, як яму прызначылі групу, працаваў 16 год ахоўнікам у Дэпартаменце аховы.

**Аляксандр ЛЯХ,**
**памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## У цёмны час насіце флікеры

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзевяць пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях атрымалі жыхары Маладзечаншчы падчас рэйду, які адбыўся вечарам 25 кастрычніка.**

Адзін з пешаходаў, які ішоў па дарозе, быў нецвярозы. Ён атрымаў два пратаколы – за тое, што быў без флікера і што нёс з сабой бутэльку самагонкі.

Пяцярым дзецям, якія ішлі па праезнай частцы, патлумачылі, што гэта небяспечна, хадзіць трэба па ўзбочыне. На аднаго з бацькоў склалі пратакол за неналежнае выкананне бацькоўскіх абавязкаў.

Падчас рэйду міліцыянеры ўручылі пешаходам 15 флікераў.

Мерапрыемства арганізавалі, каб выявіць правапарушэнні з боку раварыстаў, пешаходаў і фурманаў на вясковых дарогах. Асаблівую ўвагу падчас рэйду звярнулі на вёскі Цюрлі, Палачаны, Літва, Беразінскае, Гаразділава, Клочкава, Маркава, Лебедзева і Насілава.

Рэйд праводзілі супрацоўнікі аддзела дзяржаўтаінспекцыі, інспекцыі па справах непаўналетніх, патрульна-паставой службы міліцыі і ўчастковыя інспектары міліцыі.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

## Збіў пешахода і ўехаў у слуп

**МАЛАДЗЕЧНА. Вечарам у сераду, 23 кастрычніка, 26-гадовы кіроўца аўтамабіля "Фольксваген-Пола" рушыў па вуліцы Янкі Купалы.**

Кіроўца ехаў з боку Мінска ў бок вуліцы Віленскай. На перакрыжаванні з завулкам Асіпенкі ён не справіўся з кіраваннем і выехаў на тратуар, збіўшы пешахода. Потым машына ўехала яшчэ ў слуп.

Пацярпелы 30-гадовы пешаход атрымаў цялесныя пашкоджанні, з якімі яго шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

ПАЖАРЫ

## Сушылі адзенне – згарэла лазня

**ВІЛЕЙКА. 26 кастрычніка гарэла лазня ў вёсцы Саколле Вугал. Паведамілі пра гэта вілейскім выратавальнікам каля 16.30.**

– Па прыездзе выратавальнікаў ужо гарэў дах лазні, – паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**. – У выніку пажару лазня згарэла амаль цалкам.

У вёсцы ўсяго дзве хаты. Гаспадары адной з іх у гэты дзень палілі лазню.

Каля печы павесілі сушыцца адзенне, якое загарэлася. Ад адзення пачала гарэць і лазня.

Гаспадары спрабавалі патушыць пажар самі. Аднак калі ўбачылі, што зрабіць не ўдасца, патэлефанавалі ў МНС.

Належыць дача жыхару Маладзечна.

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБА 101

## Згарэлі два хлявы і дом

**СМАРГОНЬ. 23 кастрычніка адбыўся пажар у нежылым памяшканні ў Шыматаве.**

Пра пажар стала вядома занадта позна, і агонь да прыбыцця МНС паспеў перакінуцца на суседнія гаспадарчыя пабудовы і дом.

Гэта жыллё даўно пустуе, бо гаспадар жыве ў райцэнтры.

Па словах суседзяў, у адзін з хлявоў часам заходзілі выпадковыя людзі, пілі там і начавалі.

Магчыма, што іх неасцярожнае абыходжанне з агнём і паслужыла прычынай узгарання. Вынік – дом пашкоджаны полымем, а два хлявы знішчаны.

### МНС нагадвае

У Гродзенскай вобласці праходзіць акцыя "Бяспечнае суседства".

Калі вам вядомыя выпадкі выкарыстання непрыдатных і пустых будынкаў, гарышчаў і скляпоў для распівання спіртных напояў, начлежак асоб без пэўнага месца жыхарства, просім паведамляць аб гэтым па тэлефонах **101**, **102** або **112**.

Ананімнасць званкоў гарантуецца.

Ваша актыўная грамадзянская пазіцыя дапамога захаваць чалавечыя жыцці і матэрыяльныя каштоўнасці.

**Паводле Гродзенскага абласнога ўпраўлення МНС.**



Фота 112.by.

Жыллё даўно пуставала.

## "Гарачыя" выхадныя на Ашмяншчыне: тры пажары

**АШМЯНЫ. Гарэла машына ў вёсцы Мурававая Ашмянка і два хлявы ў Жупранах. Апошнія, хутчэй за ўсё, падпалілі.**

Хлеў у вёсцы Мураваная Ашмянка па вуліцы Савецкай загарэўся ў суботу, 26 кастрычніка, каля 21.00. Пакуль прыехалі пажарнікі, агонь паспеў пашкодзіць рэчы, што былі ўнутры.

Гэтай жа ноччу каля 3.00 загарэўся хлеў па вуліцы Моладзевай. Згарэлі дах і перакрыцце.

Папярэдняя прычына абодвух пажараў – падпал.

### Гарэла машына

У нядзелю, 27 кастрычніка, у вёсцы Мураваная Ашмянка па вуліцы Савецкай каля 20.00 загарэлася легкавая машына "Мазда-Дэмія" 2001 года выпуску. Агонь пашкодзіў маторны адсек і капот.

Прычына ўзгарання пакуль высвятляецца.

Пра здарэнні расказаў галоўны спецыяліст цэнтра прапаганды і навучання Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Іван Мік'янец**.

**Настасся РОЎДА.**

УРАЧЫСТАСЦІ

# Свята вёскі адзначылі ў Княгініне

**МЯДЗЕЛ. Княгінін – адна з найбольшых вёсак на Мядзельшчыне: жыве тут 820 чалавек.**

У суботу, 26 кастрычніка, у Княгініне адбылося свята вёскі. Адзначыць яго вяскоўцы сабраліся ў мясцовым Доме культуры.

Гучаў расказ пра мінулае і сучаснасць вёскі – якраз у гэтым годзе споўнілася 520 год з моманту першага згадвання Княгініна. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці – і юныя, і дарослыя – спявалі песні. **Алена Талайка** прачытала верш, якія прысвяціла Княгініну. Ёсць у ім такія радкі:

*"А ў Мядзельскім краі*
*ў азёрным*
*Ёсць цудоўная вёска*
*Княгінін.*
*Тут народ вясёлы,*
*прыгожы*
*Хлопцы тут усе*
*як асілкі".*

З успамінамі выступалі паважаныя ў вёсцы жанчыны: **Ганна Маліеўская, Вера Кудзіновіч і Марыя Ярашэвіч.**

Ганна Маліеўская прыехала ў Княгінін у 1956 годзе. І дагэтуль працуе акушэркай!

– Вёска цяпер вельмі змянілася ў параўнанні з тым, як я сюды прыехала, – расказвала яна. – Людзей раней было шмат. Але яны былі па хутарах расселеныя. Вёска наша ў добрым месцы размешчаная. І людзі тут таксама добрыя – адно, што меншае іх.

А 88-гадовая **Марыя Ярашэвіч** не толькі расказвала пра мінулае Княгініна, але і прыпеўкі праспявала.

– У "Народнай асвеце" пачытала, – дзеліцца яна. – І сама што дабавіла.

**– Чым, на ваш погляд, Княгінін можа ганарыцца?**

– Вучоных людзей шмат, школа тут была ўвесь час. Я, напрыклад, у польскую школу хадзіла.

І пакуль дарослыя слухалі песні і ўспаміны, вясковая дзятва актыўна купляла папкорн і салодкую вату.

На свяце ўзнагародзілі ўладальнікаў лепшых падворкаў – сем'і **Каркоцкіх, Клімовічаў, Аксютаў**. Атрымалі яны з рук старшыні сельвыканкама **Вольгі Галко** шыльды "Дом узорнага парадку". Для іх яшчэ падарункі былі адпаведныя: саджанцы дрэў. Адзначылі і пенсіянераў, якія стараюцца па добраўпарадкаванні, – **Іраіду Маскевіч і Леаніду Місун**.

Завяршылася свята феерверкам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Юныя госці свята разглядаюць выставу дзіцячых малюнкаў.

НАВУЧАННЕ

## "Акадэмія мудрага ўзросту" запрашае на заняткі

**МАЛАДЗЕЧНА. Вучыцца ніколі не позна, лічаць у раённым тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. І запрашаюць пенсіянераў на заняткі.**

Заняткі будуць праходзіць па чатырох накірунках: інфармацыйна-адукацыйным, духоўным, аздараўленчым, творчым.

Падчас іх людзі сталага ўзросту змогуць навучыцца карыстацца камп'ютарам, палепшыць здароўе на занятках аздараўленчай гімнастыкі, падзяліцца ўласным досведам і атрымаць параду спецыялістаў на занятках па псіхалогіі, а таксама асвоіць шматлікія віды рукадзелля (бісерапляценне, вязанне).

– Акрамя таго, у нас будзе працаваць школа духоўнасці і школа прываслаўя, у якіх заняткі будуць праводзіць святары, – распавядае загадчыца аддзялення **Марыя Саўчык**. – Усе заняткі будуць праводзіць кваліфікаваныя ў сваёй дысцыпліне выкладчыкі. Асноўная ўмова залічэння на заняткі – пенсійнае пасведчанне. А мы, у сваю чаргу, пастараемся стварыць для нашых "студэнтаў" самыя камфортныя ўмовы для вучобы.

Заняткі будуць праводзіцца бясплатна. Спяшайцеся, вольных месцаў у групах пакуль ёсць.

За падрабязнай інфармацыяй можна звяртацца ў Маладзечанскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва па тэлефонах: **77-73-13, 77-17-62**, або прыйсці на вуліцу **Таўлая, 4**.

**Наталля ТУР.**

## Змяненні ў раскладзе руху рэгіянальных цягнікоў

**Ад 27 кастрычніка** электрычка **Мінск-Маладзечна** прыбыццём у Маладзечна ў **22.45** будзе прыбываць у **22.36**, адпраўленнем з Мінска ў **22.03** будзе адпраўляцца ў **21.50** і прыбываць у Маладзечна ў **23.29**

**Ад 28 кастрычніка Маладзечна-Мінск** адпраўленнем з Маладзечна ў **05.09** будзе адпраўляцца ў **05.16**, адпраўленнем з Маладзечна ў **06.26** будзе адпраўляцца ў **06.25** і прыбываць у Мінск у **08.15**

Адпраўленнем з Маладзечна ў **09.47** будзе адпраўляцца ў **09.51** і прыбываць у Мінск у **11.45**

**Ад 28 кастрычніка Глыбокае-Маладзечна** адпраўленнем з Крулеўшчыны ў **04.46** будзе адпраўляцца ў **04.53** і прыбываць у Маладзечна ў **07.05**

Для забеспячэння вывазу пасажыраў прызначаецца цягнік ад **01.11.2013** па пятніцах **да адмены**: **№693 Мінск-Полацк** адпраўленне з Мінска ў **17.10**, прыбыццё ў Маладзечна **18.16**

Адпраўленнем з **Маладзечна ў 18.45** прыбывае ў Полацк у **22.44**

**Ад 27 кастрычніка** ў сувязі са зніжэннем пасажырапатоку **адмяняюцца** цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа **Маладзечна-Параф'янаў-Маладзечна, якія курсіравалі па суботах і нядзелях.**

**Мінскае аддзяленне беларускай чыгункі. Станцыя Маладзечна.** УНП 600199541.

ПАДЗЕІ

# Алею славы садзілі нават маладыя

**МАЛАДЗЕЧНА. У маладзечанскім парку імя Перамогі ў пятніцу, 25 кастрычніка, пасадзілі Алею славы і ўсталявалі памятны знак да 75-годдзя Мінскай вобласці.**

У пасадцы паўдзельнічалі і сямейная пара, што адзначыла залатое вяселле, і маладыя, што, пасадзіўшы дрэва, адразу паехалі ў ЗАГС.

Былі таксама гарадскія і абласныя ўлады, прадстаўнікі Таварыства Чырвонага Крыжа, ветэраны, навучэнцы музкаледжа ды прафесійна-тэхнічнага каледжа, настаўнікі ды школьнікі, па шэсць вучняў ад кожнай школы.

Апошнія пасля таго, як алея ўжо была пасаджаная, запусцілі ў неба паветраныя шарыкі. Разам з імі паляцелі і галубы.

На пачатку алеі ўсталявалі памятны знак да 75-годдзя Мінскай вобласці.

У канцы пасадзілі дуб. Назвалі яго "Дрэвам міру, сяброўства і згоды".

### У каго 75-годдзе, а ў каго – вяселле

Для маладых **Кацярыны і Цімафея Буцаў** дрэва, якое яны пасадзілі, будзе не абласным, а сямейным сімвалам.

– Ну, калі пазвалі, дык дрэва будзе сімвалам нашай жаніцьбы, – кажа жаніх Цімафей.

– Будзе азначаць стварэнне нашай сям'і, – дадае нявеста Кацярына. – Потым будзем сюды сваіх дзяцей вадзіць, назіраць за тым, як расце. Цяпер тут з намі і госці. Хутка разам паедзем у ЗАГС.

Уся вясельная кампанія відавочна была падрыхтаваная да іншага мерапрыемства: высокія абцасы дзяўчатам потым давялося чысціць і ад зямлі, і ад лісця. Аднак гора не бяда, галоўнае – ёсць фота на памяць.

**Настасся РОЎДА.**



Фота Ірыны ЦІПКО.

Дрэва пасадзілі да свята вобласці, але будзе яно сімвалам сям'і.

ВЫСТАВЫ

# Адкрылася выстава Эдуарда Мацюшонка

**АСТРАВЕЦ. У сераду, 30 кастрычніка, адбылося адкрыццё выставы жывапісу мастака з Вілейкі Эдуарда Мацюшонка "Адна зямля. Язэпу Драздовічу прысвячаецца".**

Праходзіць выстава ў дзіцячай школе мастацтваў. Арганізаваў яе Астравецкі гісторыка-этнаграфічны музей.

Як паведамляла "РГ", гэта выстава нядаўна праходзіла ў Глыбокім. У Астраўцы мастак не дапоўніў працамі, звязанымі з Астравеччынай.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



АЛМИ
СЕТЬ МАГАЗИНОВ
УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136
ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28
только в универсаме 29900 СКИДКА 25% П/ф Зразы рубленые из цыплят 1кг РБ
только в универсаме 58900 СКИДКА 25% Окорочка цыплят-гриль 1кг РБ
только в универсаме 39900 СКИДКА 25% Салат слоеный с ветчиной 1кг РБ
только в универсаме 26000 СКИДКА 25% Кекс Детский 1кг РБ
7950 СКИДКА 25% Продукт йогуртный Фруттис Вкусный Перерыв жир.2.5-2.6% 180г РФ Клубника-земляника/Классический
7900 СКИДКА 25% Овощная смесь для жарки Здорово По-Болгарски 400г Польша
49900 СКИДКА 25% Бедро куриное к/в Классическое 1кг РБ
27200 СКИДКА 15% Колбаса вареная Молочная Классическая в/с 1кг РБ
101900 СКИДКА 20% Колбаса с/в Салями Традиционная в/с 1кг РБ
22900 СКИДКА 25% Скумбрия с/м 1кг РФ
55900 СКИДКА 25% Обрези лосося подкопченные 1кг
9900 СКИДКА 20% Кальмар натуральный без кожи 240г РФ
12300 СКИДКА 25% Блинчики со сгущенным молоком Панские 420г РБ
только в универсаме 6100 СКИДКА 15% Крупа гречневая б/р Ядрица Колумб 800г РБ
4950 СКИДКА 25% Майонез Слобода жир.67% 200г РФ Провансаль/Оливковый
13500 СКИДКА 15% Масло подсолнечное с добавлением оливкового Альтеро 0.81л РФ
только в универсаме 10900 СКИДКА 30% Оливки б/к Микадо 314мл Германия
только в универсаме 10900 СКИДКА 30% Маслята маринованные Колумб 280г Китай
только в универсаме 18900 СКИДКА 25% Персики консервированные Микадо 850мл Германия
14900 СКИДКА 25% Нектар Ананасовый/ Сок Томатный Сочный Фрукт 2л РБ
17900 СКИДКА 25% Кофе молотый Жокей Традиционный 250г РФ
14900 СКИДКА 15% Чай черный ТиФоТу 100пак*1.4г Польша Без ароматизатора/С лимоном
5900 СКИДКА 15% Печенье с начинкой Мульти Кейк 180г Украина Молоко/Какао
10500 СКИДКА 25% Торт вафельный Старый замок 250г РФ Ореховый/Черничный
только в универсаме 14500 СКИДКА 20% Конфета Кэнди Нат Рошен 250г Украина
1650 СКИДКА 25% Шоколад Любимая Аленка 20г РБ
8900 СКИДКА 25% Конфеты Пчелка Жу-Жука 250г РФ
1200 СКИДКА 25% Арахис жареный с солью АЛМИ 30г РБ
13900 СКИДКА 30% Кружка керамическая Цветущая сакура 330мл Китай В ассортименте
только в универсаме 16900 СКИДКА 30% Формочка для яичницы и оладьев Китай Круглая/Цветок/Сердце
16900 СКИДКА 30% Прокладки Натурелла Ультра Дуо 16-20шт РФ Нормал/Найт/Макси
6500 СКИДКА 25% Зубная паста 32 Жемчужины 77мл РБ Для чувствительных зубов/Профилактика воспаления дёсен
38900 СКИДКА 20% Стиральный порошок Дени Автомат 3кг РФ Свежесть снега/Стойкий цвет
только в универсаме 14500 СКИДКА 30% Чистящее средство Мистер Мускул 450мл Украина В ассортименте
9900 СКИДКА 30% Средство для мытья посуды Людвик 500г Польша В ассортименте
10500 СКИДКА 25% Туалетная бумага Снежная панда Ароматизированная 4шт Украина
ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624
Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.
ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 30 ОКТЯБРЯ ПО 12 НОЯБРЯ 2013 ГОДА
товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136
товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі 100, 1986 г.в., 1,8 карбюратар, бардовы металік, выдатны стан, 3100 у.а., торг. Т. (8-044) 7404002.

• Аўдзі 80 Б3, 1988 г.в., 1,6 дызель, чорны металік, добры стан, 3500 у.а., торг. Т. (8-033) 6355583.

• Аўдзі А6, С4, 1996 г.в., 2,6 бензін, аўтамат, 6500 у.а. Т. МТС (8-029) 7677491.

• Аўдзі -80, 1986 г.в., 1,6 Б, на ходу, патрабуе рамонту, залацісты металік,1500 у.а., торг, Маладзечна. Т. (8-033) 3331595.

• ВАЗ 2104, 1996 г.в., 1,5 Б, 450 у.а.; ВАЗ 2109, 1992 г.в., Б, патрабуе зваркі, 450 у.а. Т. (8-044) 7731674.

• ВАЗ 21213, 1998 г.в., 1,7 бензін. Т. (8-044) 5657451.

• Ваз-2106, 1990 г.в., на ходу, 1,5 бензін, цана дагаворная, тэрмінова, Вілейка. Т. (8-029) 8594524.

• ГАЗ 31029, 1996 г.в., 2,4 бензін, рухавік УД-2, новы. Т. (8-029) 5456178, МТС (8-029) 7690145.

• ДЭУ Матыз, снежань 2006 г.в. Т. (8-029) 7645917.

• Кіа Сід, 2008 г.в., 1,4Б, універсал. Т. (8-044) 7730920.

• Масквіч-2141, 1991 г.в., 1,5, ТА, страхоўка, добры стан, адзін гаспадар. Т. (8-029) 2512065.*

• Міцубісі Карызма, 1996 г.в., 1,6 Б, АКПП, колер аранжавы. Т. (8-033) 3416164, (8-029) 6447436.

• Опель Астра, 1992 г.в., 1,6 бензін, 2100 у.а., торг. Т. Вэлком (8-029) 6028263.

• Опель Астра, 1992 г.в., універсал, 1,7 Д, 3500 у.а. Т. (8-029) 3934620.

• Опель Зафіра, 2002 г.в., 2,0 ТД, сіні. Т. (8-033) 3345379.

• Опель Мерыва, 2004 г.в., 1,6 бензін, блакітны, 8990 у.а. Т. (8-029) 5598453.

• Пежо Эксперт, 1996 г.в., 1,9 ТД, 3 месцы, грузавы, новае: турбіна, счапленне, генератар, стартэр, ц/з з пульта, DVD магнітола, камера задняга віду, 4400 у.а. Т. (8-029) 2562310, (8-044) 7618661.

• Рэно 19, 1993 г.в. Т. (8-029) 9344438.*

• Рэно Меган Гранд Сцэнік, 1,9 Д, мінівэн, 6 МКПП, сіні колер, шмат опцый, выдатны стан, зімняя гума, 10800 у.а. Т. Вэлком (8-044) 7505019, МТС (8-029) 5035352.*

• Рэно Меган, 2005 г.в., 16 клапанаў, 5 дзвярэй, 6 AAB, г/у, ц/з, добры тэхнічны стан, 8300 у.а. Т. Вэлком (8-029) 1241935.

• Рэно Сцэнік 2, 2008 г.в., 1,5 СДІ, клімат-кантроль, літыя дыскі, новая гума, залацісты металік, 11000 у.а. Т. (8-029) 3077300, (8-029) 3249483.*

• Рэно-19, 1993 г.в., 1,8 бензін, фіялетавы, сігналізацыя, літыя дыскі, ц/з, электрычныя шклопад’емнікі, гатовая да зімы, 3200 у .а., торг пры аглядзе. Т. МТС (8-029) 8866913, (8-033) 6175387.

• Сітраэн Ксара Пікасо, 2001 г.в, 1,8 і б, 200000 км, л/д, кандыцыянер, шэры металік, велюр, камплект зімняй гумы. Т. Вэлком (8-029) 6989652, (8-044) 7975817.

• Сітраэн Ксара, 2002 г.в., НДІ, універсал, 6800 у.а., торг. Т. (8-029) 2716370.

• Сітраэн С5, 2001 г.в., 2,0 газ+бензін, хэтчбэк, шэры, эксклюзіў, 7800 у.а., торг. Т. Вэлком 1711152, МТС 7530548.*

• УАЗ 469, добры стан, тэхагляд, запчасткі. Т. (8-029) 2523254.

• ФВ Джэта, 1986 г.в., 1,6 дызель, белы, выдатны стан, зімнія шыны. Т. (8-033) 6340335.

• ФВ Пола, 1991 г.в., 1,4 дызель. Т. (8-029) 5083970.

• ФВ Т-2, 1986 г.в., 1,9 дызель, жоўты. Т. МТС (8-029) 8652256, МТС (8-029) 8557266.

• ФВ-Гольф 5, 2008 г.в., 1,9ТД, універсал. Т. (8-029) 6850358.

• ФВ-Туран, 2009 г.в., 1,4 TSi (бензін/газ-метан). Т. (8-029) 3622188.

• Фіят Марэа, 2002 г.в., універсал, сіні, 1,9 GTD, 3980 у.а. Т. (8-029) 1748200.

• Фіят Дуката, 1995 г.в., 2,5 Д, 8+1 месцаў, максібаза, добры стан, 6000 у.а., торг. Т. (8-029) 6253279.*

• Форд Мандэа, 1993 г.в., 1,8 бензін, седан, 2400 у.а., торг. Т. МТС (8-033) 6322984.

• Форд Фіеста, 1992 г.в., 1,3 мона, бензін, хэтчбэк, чорны, добры стан, страхоўка, 1500 у.а., торг. Т. Вэлком (8-029) 9195228, Сяргей.

• Форд Фіеста. Т. (8-029) 9092919.

• Гума зімняя, 175/70/R 13 на дысках. Т. (8-029) 5786917.*

• Дыскі штампаваныя на 4 балты ад Рэно. Т. (8-029) 3732422.

• Па запчастках ВАЗ 2101, ВАЗ 2108, Форд Сіера. Т. (8-044) 4879598.

• Па запчастках: ФВ G-4, 2000 г.в., 1,9 ТД; Аўдзі А-6, 2000 г.в., 2,7 БТ, АКПП; ФВ Т5, 2004 г.в., 1,9 ТД, МКПП; “MB Vito”, 2006 г.в., 2,2 СДі, МКПП; “Suzuki Grand Vitara”, 2000 г.в., 2,5 Б, МКПП; “Таёта Камры”, 2003 г.в., 2,4 S, АКПП; “Honda CR-V”, 2007 г.в., 2,2 ТД, МКПП, поўны прывод; “Гранд Чарокі”, 2000 г.в., 4,7 АКПП; Нісан Х Трэйл, 2008 г.в., “Міцубісі Лансер 9”, 2006 г.в., 1,6. ІП Яроўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*

• Рухавік (ГАЗ-560), стаер, з усім навясным, б/у. Т. (8-033) 6012492.

• Рызіна зімовая, 195/65/R15, камплект, Dunlop, Японія, б/у, нядорага. Т. (8-029) 2614541.

## КУПЛЮ

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-033) 6909195, (8-029) 9381683.*

• Аўто, можна з праблемамі. Т. (8-033) 6913867, (8-044) 7865274.*

• Аўто, разгледжу усе варыянты. Т. (8-033) 6912580, (8-044) 4727990.*

• Аўто, якое хочуць тэрмінова прадаць. Т. (8-033) 6909564, (8-029) 9962310.*

• А/м да 3500 у.а. Т. (8-033) 3711742.*

• А/м **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС** у любым стане. Т. (8-033) 6924944.*

• Аўто 1988-2008 г.в., можна з дэфектамі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*

• Аўто ў добрым стане, для сябе. Дорага. Т. МТС (8-033) 3711756.*

• Аўто, іншамарку, не старэйшыя за 1990 г.в., да 5000 у.а. Т. Вэлком (8-044) 4871003.*

• Аўто, любое, з любымі праблемамі. Т. Вэлком (8-044) 4706493.*

• А/м, можна з праблемамі. Т. (8-029) 1874510.*

## ІНШАЕ

• **АЎТАРАЗБОРКА РЭНО. ВЯЛІКІ ВЫБАР Б/У ЗАПЧАСТАК, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ.** ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

## ПАСЛУГІ

• **РАМОНТ ТУРБІН**. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

• **АЎТАЭЛЕКТРЫК**. Камп’ютарная дыягностыка, устаноўка сігналізацыі, падключэнне аўтамагнітол. ІП Бандарэнка А.К. УНП 690383566. Т. (8-029) 5717325.*

• Арэнда міні-экскаватара. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 40 кв.м, 5-паверх. Т. МТС (8-029) 8640459.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 8778499.

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панэльнага дома, 38,1/17,5/8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*

• 2-пакаёвая кватэра (хрушчоўка) у цэнтры горада Вілейка. Т. МТС (8-033) 3829775, МТС (8-029) 7792181.

• 2-пакаёвая кватэра ў драўляным доме, цэнтр, Вілейка. Т. МТС (8-029) 8775320.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына, 12, 35000 у.а. Т. (8-01771) 40208.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 5 паверх, жылая плошча 38,3 кв.м, адзін пакой 16,8 кв.м, другі - 13,6 кв.м, трэці - 9 кв.м, кухня – 9 кв.м, санвузел асобны, лічыльнікі ўсюды, лоджыя, 38000 у.а., торг. Т. (8-029) 8577499, (8-01771) 53427.

• 3-пакаёвая кватэра ў Каранях, 4/7, 72 кв.м, 2 лоджыі, палепшанай планіроўкі, 44000 у.а. Т. (8-029) 6154172.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, элітная, 130000 у.а. Т. 772326, 2516213, Наталья.*

• 3-пакаёвая кватэра ў р-не гімназіі №7 па вул.Грамадоўскай, 4/5 паверх, цэгла, 2 балконы, склеп, санвузел асобны, прыватызаваная. Побач дзіцячы садок, магазін. Т. Вэлком (8-029) 3117587.*

• Адміністрацыйна-вытворчы будынак ў Маладзечне па вул.Грамадоўскай, 337 кв.м, 350 еўра за кв.м. ЗАТ “Кэмпі”. УНП 600450635. Т. (8-029) 6575057.

• Гараж у ГК 32 у Маладзечне, р-н Фестывальны. Т. МТС 7726530.*

• Адміністрацыйны 2-павярховы будынак ў Маладзечне па вул.Грамадоўскай, 238 кв.м, 450 еўра за кв.м. ЗАТ “Кэмпі”. УНП 600450635. Т. (8-029) 1715751.

• Вытворча-складское памяшканне ў Маладзечне па вул.Грамадоўскай, 356 кв.м, 250 еўра за кв.м. ЗАТ “Кэмпі”. УНП 600450635. Т. (8-029) 7050780.

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*

• Гараж у ГБК-3. Т. (8-029) 9344445.

• Дача ў садовым таварыстве, шчытавы дом, уцеплены, на даху шыфер, 3 пакоі, пячное ацяпленне, вада сезонная, электрычнасць круглы год, участак 6 сотак, гаспадарчыя пабудовы, пладовыя дрэвы і кусты, першая лінія ад лесу, 200 метраў да магазіна, які працуе з красавіка па лістапад, станцыя электрычкі “Татарщызна”, Маладзечанскі р-н. Т. (8-029) 6400090, Сяргей.*

• Дом па вул.Някрасава, ёсць вадаправод, каналізацыя, газ, тэлефон, 55000 у.а. Т. 733373, МТС (8-029) 7067870.*

• Дом у Вілейцы, 4 пакоі, кухня, веранда, газавае ацяпленне, водаправод, тэлефон, цагляны гараж, 6 сотак. Т. (8-107495) 6577193, (8-01771) 51059, (8-38069) 2489030.*



## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап’янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

■ **ЭКСПАНАТЫ**

## Радыёпрыёмнік, які вайной у зямлю закапалі

**Працягваем серыю матэрыялаў “Найцікавейшыя экспанаты Вілейскага краязнаўчага музея”. Сёння старшы навуковы супрацоўнік установы Вольга Коласава раскажа пра радыёпрыёмнік, які вайной закапалі ў зямлю:**

– У раздзеле “Пакуты” сярод экспанатаў, якія сведчаць аб падзеях Вялікай Айчыннай вайны, адразу звяртаеш увагу на прыгожы радыёпрыёмнік знакамітай фірмы “Philips”. Яго перадала ў 1998 годзе жыхарка Вілейкі **Ідалія Вярбіцкая**. Як яна расказвала, гэты прыёмнік прывёз яе бацька з Амерыкі, паехаў туды за польскім часам, каб зарабіць грошай, а потым купіць зямлю. І калі ўжо вяртаўся дамоў, вырашыў купіць вось гэты радыёпрыёмнік.

Але хутка пачалася вайна, нашу зямлю акупавалі фашысты. І адзін з іх загадаў быў здаць радыёпрыёмнікі. А хто не здасць, будзе пакараны смерцю.

Гаспадару вельмі шкада стала: ён працаваў у Амерыцы, вёз прыёмнік праз увесь акіян, і тут трэба здаць невядома каму. Вырашыў, будзь што будзе. Закапаў гэты радыёпрыёмнік, а пасля вызвалення – адкапаў. Прыёмнік быў у працоўным стане. Як нам сказалі, што, магчыма, і цяпер будзе рабіць.

Вось такая цікавая гісторыя, якія мае дачыненне да жыцця ў ваенны час.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Радыёпрыёмнік, што вайну праляжаў у зямлі.**

## Фартэпіяна

### Гісторыя аднаго экспаната івянецкага музея

**ВАЛОЖЫН. Цікавай і багатай біяграфіяй аднаго з экспанатаў музея – фартэпіяна – падзялілася з “РГ” дырэктар Івянецкага музея традыцыйнай культуры Валянціна Адамовіч.**

– Першапачаткова інструмент належаў спадару Лыншы, які жыў ў вёсцы Далідавічы. Асоба Лыншы цікавая сама па сабе. Ён быў мастакомсамавучкам, яго карціны захаваліся і сёння. У вёсцы разбіў вялікі гадавальнік садовых дрэў, быў адмысловым пчаляром.

Набыў інструмент у вёску адразу ж пасля вайны, – далёка не кожны мог сабе такое дазволіць, пагадзіцеся. Набывалася фартэпіяна для ўнука гаспадара, **Чэслава Лыншы**, які зараз вядомы як выкладчык Акадэміі музыкі па класе фартэпіяна ў польскім горадзе Познань. Ці не дзякуючы падарунку дзеда ўнук стаў вядомым піяністам?

Гэтага інструмента таксама кранулася рука яшчэ аднаго нашага знакамітага земляка – **Канстанціна Паплаўскага**, хармайстра, аднаго са стваральнікаў Беларускага дзяржаўнага народнага хору, бацькі спявачкі Ядвігі Паплаўскай. Ён быў сваяком сям'і Лынша.

Гісторыя інструмента цікавая яшчэ тым, што гэта адзін з самых першых музычных інструментаў, які выпусціла Барысаўская фабрыка піяніна.

Доўгі час фартэпіяна прастаяла на вуліцы, пад дажджом і снегам, але супрацоўнікі музея і наш івянецкі наладчык **Валеры Лапыцька** падарылі яму другое жыццё. Цяпер інструмент знаходзіцца ў рабочым стане, цудоўна гучыць.

Мяркуем, што фартэпіяна “Беларусь” спадара Лыншы зойме пачэснае месца ў нашым новым музеі мястэчковага побыту. Канешне, пакуль рана гаварыць пра яго адкрыццё, але хочацца верыць, што гэта ўсё ж стане магчымым.

Зараз фартэпіяна знаходзіцца ў музейнай майстэрні і чакае жывых канцэртаў, якія мы абавязкова будзем ладзіць у музеі пад акампанемент гэтага інструмента.

**Наталля ТУР.**

АСОБЫ

# Міхась Казлоўскі верны сабе

*Працяг. Пачатак у №№41, 42. 43.*

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэты аповед пра жыццё і творчасць нашага сучасніка, незвычайнага чалавека, краязнаўца, літаратуразнаўца, бібліяфіла Міхася Казлоўскага.**

**– Міхась Міхасевіч, вы дакладна характарызуеце Міколу Ермаловіча як чалавека, які, калі ішоў, нагадваў птушку, якая ляціць: прыгнутыя плечы, галава быццам апярэджвае цела. Размашысты і ўпэўнены крок...**

– Ён стараўся ўсюды паспець і ўсё зрабіць. Па сутнасці, сляпы чалавек, раскрыў нам, відушчым, вочы на гісторыю роднай Беларусі. Гісторыю трагічную і слаўную! Пакутлівую і велічную! Празмерна балела яго душа за Беларусь, за яе гісторыю, стан мовы, духоўнасці і культуры.

Чытаю эсэ Казлоўскага і затрымліваю позірк на фразах-думках Міколы Іванавіча, які часта паўтараў: "Нам, беларусам, не трэба нарывацца на ражон і патрапляць у турмы, нас няшмат, нам трэба шырыць кола сяброў і аднадумцаў і працаваць хай сабе і павольна, але няўхільна..." Перажываў за далейшы лёс Беларусі. Ён шмат зрабіў для вяртання памяці свайго народа.

З цікавасцю чытаю яго дароўныя надпісы на сваіх кнігах Казлоўскаму: "...Шчыраму працаўніку на роднай ніве і мужнаму змагару за светлую будучыню роднай Беларусі", на другім – "Дарагому Міхасю Казлоўскаму – непахіснаму сцяганосцу Беларусі..."

У нарысе "Светлы птах з перабітым крылом" аўтар расказвае пра "аднаго з самых таленавітых і выдатных мастакоў XX стагоддзя ў беларускім выяўленчым мастацтве" Антона Карніцкага. У іншым біяграфічным матэрыяле "І тэцца радно памяці", змешчаным ў другім раздзеле кнігі "З верай і любоўю" (першы "Покліч роднай зямлі", трэці – "Забытае рэха вяртаю"), пісьменнік вядзе аповед таксама пра мастака – Рамана Семашкевіча, маленькай радзімай для каго было Лебедзева. Для яго творчасці былі ўласцівы шчырасць пачуцця, замілаванне да сваіх каранёў, спрадвечная цяга да ўсяго роднага, блізкага, шчымлівы роздум пра сваю зямлю, пра свой мілы край.

Гісторык-краязнаўца згадвае, што "повязь мастакоўскіх традыцый на Маладзечаншчыне ніколі не перарывалася, а перадавалася з пакалення ў пакаленне". У літаратуры, дзяржаўнай і грамадскай дзейнасці, у асвеце і культуры – таксама.

Дзякуючы даследчыку, хто па крупінках збіраў сведчанні відавочцаў і знаходзіў неабвержаныя факты ў архіўных звестках, мы больш грунтоўна цяпер ведаем пра даследчыка прыроды, кіраўніка тайных студэнцкіх арганізацый на Беларусі, паэта Тамаша Зана, пра выдатнага вучонага, вернага сына свайёй зямлі Леанарда Ходзьку, пра першага старшыню Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, аўтара першага падручніка па эканоміцы ў Заходняй Беларусі Адама Більдзюкевіча...

### Увекавечвае асобы, якія ўплывалі на лёс краіны

Цікава расказваецца і пра іншых выдатных асобаў. Гістарычныя ўжо. І якіх яшчэ зусім нядаўна маглі бачыць, чуць. Скажам, з эсэ "У пошуках папараць-кветкі" даведваемся пра Івана Васільевіча Козела – самабытнага і глыбоканацыянальнага драматурга, хто здолеў дакладна паказаць нацыянальны характар, сялянскі быт беларуса, умела выкарыстаў нацыянальны фальклор.

У кнізе шмат запамінальных імён. І жыццё асобных герояў кнігі, як, скажам, Пятра Іванавіча Бітэля з нарыса "Свой крыж несучы", "з вечнымі цяжкасцямі і выпрабаваннямі, з упартым жаданнем заставацца чалавекам і асобай", такое ж.

Аднаму знанаму ў Заходняй Беларусі грамадскаму і палітычнаму дзеячу, аднаму з ідэолагаў і кіраўнікоў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, каму ў 20 – 30 гады мінулага стагоддзя належала выключная роля ў стварэнні масавага незалежніцкага руху, Адольфу Клімовічу гісторык прысвяціў цэлую кнігу "Нашчадак слаўных крывічоў". А ў прадмове да яе паэт Мар'ян Дукса сцвярджае: калі б не тыя тытанічныя высілкі "нацыяналістаў", хто ведае, як склаўся б лёс нашай Айчыны...

Клімовіч жа, па меркаванні аўтара цікавага даследавання, быў заўсёды і ўсюды верным сынам беларускага народа. Яму ўласцівы духоўны неспакой. Ён пражыў годнае жыццё, поўнае трагічнага гераізму і самаахвярнасці.

І ў наш час думкі, выказаныя ім, актуальныя. Асабліва тыя, якія тычацца маралі і этыкі, міжасабовых зносін. Не трэба баяцца заглянуць у душу чалавека, каб зразумець, што там адбываецца, чаго яна прагне, да чаго імкнецца. Клімовіч жа рабіў такую выснову: "Хворая людская душа – вось жарло ўсіх бедаў, усіх недастаткаў..."

Хіба не слушна гэта? Хіба не могуць не хваляваць нас, хто жыве ў незалежнай суверэннай дзяржаве, імкненні Клімовіча і яго паплечнікаў "бачыць... Беларусь дэмакратычнай, свабоднай, дзе павінен правіць закон, які рэгулюе правы і абавязкі асобы, дзе прызнаецца прыватная ўласнасць і дзе такая маральная катэгорыя, як сумленнасць, з'яўляецца абавязковай для любога грамадзяніна, асабліва для дзяржаўных службоўцаў".

А ці не аб гэтых катэгорыях мы чуем разважанні сучаснікаў? Удумайцеся: "Калі мы зможам выхаваць у нашых дзецях і ўнуках такія якасці, як сумленнасць, прыстойнасць, прафесіяналізм, дабрыню, пачуццё меры, любоў да Радзімы, да яе гісторыі, то нас чакае светлая будучыня, і ніякія катаклізмы ёй не будуць страшныя..." Шкада толькі, што для пэўнай часткі людзей нашага асяродку галоўным становіцца не пачуццё бацькаўшчыны, а кар'ера, дастатак. Наяву культ эгаізму і спажывання...

Тыя ж, хто стаяў за беларускую справу, па прызнанні аднаго з апосталаў беларускага Адраджэння Аляксандра Уласава, словы якога прыводзіць аўтар у кнізе, кар'еры не зрабілі. Жыццё іх мучаніцкае. І ішлі яны не па кветках, а па калючках. Пахвальна, што трагічную і гераічную старонку нашага краю Міхась Казлоўскі ўзнаўляе таленавіта, дакументальна, жыва і сумленна на аснове гістарычных фактаў.



Архіў "РГ".

Літаратуразнаўца Міхась Казлоўскі на выставе Алеся Пушкіна. Вілейка, 15.10.2003 г.

### Дакрануўся да скарбаў кніг

Дзякуючы нястомнаму руплівцу на ніве беларускасці, мы трымаем у руках яшчэ адзін яго томік – "Да кніжных скарбаў дакрануся". Чым кніга цікавая? Тут сістэматызаваны звесткі пра бібліятэкі, архівы і прыватныя калекцыі літаратуры мінулых гадоў. Яна насычаная цікавымі звесткамі. Багата ілюстраваная. З густам афармленая.

**– Атрымліваецца, Міхась Міхасевіч, беларуская кніга жыве!.. Вы пераканалі нас, што яе збіраюць, вывучаюць...**

– У нас амаль адсутнічае даўняя і добрая традыцыя збірання кніг. Менавіта беларускіх. Беларускіх па слове, па назвах, па тэме, па накіраванасці. Цяпер знайсці патрэбную беларускую кнігу, тым больш у добрай захаванасці, надзвычай складана. Але хто шукае, той знаходзіць...

**– Вы з такой любоўю расказваеце пра заядлых бібліяфілаў, сапраўдных рыцараў беларускай кнігі, што ў кожным аповедзе ўлоўліваеш жыццёвыя рысы тых, пра каго расказваеце, чуеш стук іх сэрцаў, рытм даўно адышоўшага жыцця.**

Разлічваючы на чытача разумнага, дапытлівага, сам з'яўляючыся назіральным і ўдумлівым даследчыкам, бібліяфіл і краязнаўца, напісаўшы цікавую кнігу "Да кніжных скарбаў дакрануся", дае нам шматлікія канкрэтныя факты, прыводзіць запамінальныя дэталі з жыцця і творчай дзейнасці канкрэтных людзей, з кім яшчэ ўдалося сустрэцца, а пра каго расказалі толькі дакументы, дапоўнілі якія фотаздымкі людзей, якія сышлі ў нябыт, але застаюцца ў памяці ўдзячных нашчадкаў.

Перачытваю, перагортваю старонкі яго кніг, у тым ліку і гэтай, і ў маім уяўленні, як жывыя, паўстаюць аблічча людзей, якія быццам мовяць: "Памятайце пра нас і ніколі не забывайце, бо мы хацелі для вас дабра і шчасця". Тут жа – расказы пра людзей, улюбёных у беларускую кнігу, цэлы пласт чалавечых узаемаадносін, багацейшая фактура для вывучэння пэўнай эпохі.

Аўтар расказвае пра Янку Купалу ў кнігазборы Заходняй Беларусі, пра зборнік вершаў і паэм "Шляхам жыцця" (1923 г.), паэму "Адвечная песня" (1927 г.), цудоўную паэму "На куццю" (1928 г.), пра незайздросны лёс прыжыццёвых выданняў Вацлава Ластоўскага, пра выданне сарака трох нумароў у трыццаці трох кніжках аднаго з лепшых беларускіх літаратурных часопісаў другой паловы дваццатых гадоў мінулага стагоддзя "Узвышша", ініцыятарамі стварэння якога і аднайменнага літаратурнага аб'яднання былі пісьменнікі Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Кузьма Чорны, Язэп Пушча і іншыя.

### Беларусы ў лідарах славянства

Нямала тут карысных і цікавых звестак і для сённяшняга чытача. Гістарычных!.. Скажам, паведамляе ў сваёй кнізе пісьменнік, людзі і зямля на якой яны пражывалі, яшчэ ў часы Еўфрасінні Полацкай лічылася краем кніжнай культуры і мудрасці. Залатым векам у нашай гісторыі лічацца XV-XVI стагоддзі. Гэта звязана з найбуйнейшым росквітам нашай старадаўняй культуры, з дзейнасцю Францішка Скарыны, Яна Вісліцкага, Міколы Гусоўскага.

Да таго ж, сцвярджае аўтар, залаты век для нашай культуры не закончыўся разам з Рэнесансам – яго прадоўжылі такія славутыя асобы, як Мікалай Радзівіл Чорны. Сымон Будны, Васіль Цяпінскі. Менавіта ў той час узніклі друкарні ў Вільні, Нясвіжы, Брэсце, Лоску, Любчы і іншых гарадах і мястэчках тагачаснай Беларусі.

**Аляксандр ХАЗЯНІН,**
**журналіст, пісьменнік.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**1 лістапада.** 145 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Даўгялы (1868 – 1942), беларускага гісторыка, архівіста, археографа. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію. Быў членам і старшынёй Віленскай археаграфічнай камісіі. Аўтар прац па гісторыі гарадоў і замкаў Беларусі, прымаў удзел у выданні зборнікаў гістарычных дакументаў. Стаў ахвярай рэпрэсій 1930-х гадоў.

***

**140 гадоў** з дня нараджэння Івана Замоціна (1873 – 1942), беларускага і рускага літаратуразнаўца. З 1922 года – прафесар БДУ, потым Мінскага педінстытута. Адначасова працаваў у Інбелкульце, Акадэміі навук. Даследаваў гісторыю і тэорыю беларускай літаратуры. Стаў ахвярай рэпрэсій 1930-х гадоў.

***

**80 гадоў** з дня нараджэння Вячаслава Адамчыка (1933 – 2001), беларускага пісьменніка. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Мележа (раман "Чужая бацькаўшчына).

***

**1-2 кастрычніка.** 65 гадоў назад (1948) у Мінску праходзіла 1-я Беларуская рэспубліканская канферэнцыя прафесійных саюзаў. Абранне Беларускага рэспубліканскага савета прафесійных саюзаў (Белсаўпрафа).

***

**2 лістапада.** Дзень памяці.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Мікалая Сіраты (1913 – 2006), вучонага-фізіка, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Беларусі.

***

**3 лістапада.** 75 гадоў з дня нараджэння Зінаіды Зубковай (1938), беларускай актрысы, заслужанай артысткі Беларусі.

***

90 гадоў таму (1923) у Мінску адкрылася першая на Беларусі працоўная ашчадная каса.

***

**5 лістапада.** 55 гадоў з часу выпуску (1958) Беларускім аўтазаводам у Жодзіна першых аўтасамазвалаў.

***

**6 лістапада.** 110 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Красільнікава (1903 – 1951), беларускага графіка. Працаваў у сатырычнай і кніжнай графіцы. У 1943 годзе супрацоўнічаў у беларускім сатырычным выданні "Раздавім фашысцкую гадзіну", з 1945 года – у часопісе "Вожык".

***

**7 лістапада.** Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі.

***

**80 гадоў** з дня адкрыцця (1933) у Мінску Дома ўрада.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Гатуем раўгеню і дранку па-мядзельску

## Этнограф Эльвіра Місевіч дзеліцца сакрэтамі рэгіянальнай кухні

**МЯДЗЕЛ. Вы ведалі, што традыцыйная стравы Мядзельшчыны адрозніваюцца ад традыцыйных беларускіх?**

А ці спрабавалі калінебудзь прыгатаваць кілбасу ці булку так, як гэта рабілі яшчэ пару дзесяцігоддзяў таму?

Калі не, то прапануем невялікае падарожжа па мядзельскай кухні. Правядзе яго **Эльвіра Місевіч** са Свіры, якая цяпер працуе ў адной з навапалацкіх школ. Ужо некалькі гадоў спадарыня Эльвіра даследуе традыцыі роднай Мядзельшчыны, вывучаючы этнаграфію ў магістратуры. Даследаванне, прысвечанае кухні, яна прадставіла на сёлетнім Міжнародным кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Коўне.

### "Сучасная моладзь такое б не стала есці!"

**– Прадстаўляць сваю малую радзіму на міжнародным узроўні – хіба не частая магчымасць?**

– Так, тым больш, што я прадстаўляю яе ў асаблівай для мяне краіне. Першыя шэсць гадоў жыцця мая сям'я жыла ў Вільні, нарадзілася я таксама там. Таму быць цяпер у Літве вельмі прыемна.

**– Чаму ў сваіх даследаваннях вы засяродзілі ўвагу менавіта на Мядзельшчыне?**

– Проста крыўдна было, што па родным рэгіёне так мала даследаванняў. Палессе і Падзвінне больш цікавяць навукоўцаў, а наш рэгіён часта абыходзяць бокам. Хацелася гэта выправіць.

Вядома, быць у нейкім сэнсе першаадкрывальнікам вельмі цікава. Але ж гэта і складана: адпаведнай літаратуры вельмі мала.

**– Ці адыгрывае ролю ў традыцыйнай кухні геаграфічнае становішча Мядзельшчыны?**

– Вядома. Нават па назвах некаторых страў можна ўбачыць, што рэгіён знаходзіцца недалёка ад Літвы.

Напрыклад, журын ці раўгеня – адмысловыя аўсяныя стравы. Аўсяныя крупы залівалі вадой і ставілі ў цёплую печ. Пару дзён яны там стаялі, а калі набывалі кіслы смак, іх елі з бульбай.

Бабулі, якія дзяліліся са мной гэтымі рэцэптамі, кажуць: "Сучасная моладзь ніколі б такое не ела!".

Да таго ж наш рэгіён знаходзіцца на мяжы двух гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў: паміж Цэнтральнай Беларуссю і Падзвіннем. Таму стравы поўночнай і паўднёвай Мядзельшчыны таксама крыху адрозніваюцца.

**– Багатая прырода рэгіёна таксама мае свой адбітак у кухні?**

– Так. Лесам у нас занята каля 41% тэрыторыі, азёрамі – каля 7%. Таму ў рацыёне абавязкова ёсць грыбы, ягады і рыба.

Пасля вайны страў з рыбы было вельмі мала. Гэта звязана з тым, што ўсе азёры былі ва ўласнасці дзяржавы. У 1935 годзе адбылася забастоўка нарачанскіх рыбакоў, пасля якой з лоўляй рыбы стала прасцей.

У ваенныя часы сушаную рыбу перацíралі, і атрыманую муку дадавалі ў звычайную пры выпечцы хлеба.

Ёсць і спецыфічныя словы, звязаныя з рыбай. Напрыклад, селядзец на Мядзельшчыне завуць шмальцувкай.

**– Чым яшчэ адметная мядзельская кухня?**

– Як і ва ўсёй паўночнай Беларусі, першае месца па папулярнасці тут займаюць мучныя стравы. Мяса і раней, і цяпер ідзе не як асноўная страва, а як дадатак.

Можна падумаць, што на поўначы якраз павінны есці больш мяса. Але практыка паказвае, што раслiннай ежы ў рацыёне тут болей.

Улічваючы тое, што амаль трэць года прытрымліваліся посту, гэта не дзіўна.

Пра тое, што мяса елі мала, гавораць і назвы страваў. Напрыклад, гатавалі "клёцкі з душамі". Душа – гэта тое, чаго мы не бачым. Вось і мяса было ў тых клёцках столькі, што і не відаць.

Таксама гатавалі дранку. Для гэтага трэба патаўчы вараную бульбу, дадаць яйка і крыху мяса і паставіць запякацца. Гэта бяднейшы варыянт звыклай для нас бабкі.

Яшчэ ў нас шмат вырошчвалі грэчкі: у такіх балоцістых мясцовасцях яна добра расце.

Сваю ролю адыгрывае тое, што на Мядзельшчыне актыўныя каталіцкія традыцыі. Гэта відаць з дробязях: на рэлігійныя святы каталікі менш ужываюць алкаголю.

**– Ці добра захаваліся кулінарныя традыцыі на Мядзельшчыне?**

– Увогуле кулінарныя традыцыі захоўваюцца вельмі добра. Калі глядзець на матэрыяльную культуру, то многае ўжо забываецца. Ткацтва ці дойлідства цяпер амаль не сустракаюцца ў паўсядзённым жыцці.

Кухня захоўваецца дзякуючы абрадавасці многіх страў. Велікодныя ці калядныя традыцыі на кухні – паўсядзённасць для многіх беларусаў. Я бачу цікавасць з боку моладзі: яны даведваюцца, колькі страў павінна быць на Каляды, якія сэнс мае кожная з іх.

### Калі падчас выпечкі ў хаце шумна – булка патрэскаецца

**– Якія мясціны вы наведвалі падчас свайго даследавання?**

– Я размаўляла з жыхаркамі Камарова, Канстанцінава, Крывічоў, Свіры, Мядзела. Знайсці старажылаў дапамагалі мясцовыя сельсаветы.

**– Як ставяцца гаспадыні да невядомай госці?**

– Ведаеце, не было ніводнай бабулі, якая з першай хвіліны ахвотна запрасіла ў дом! Спачатку ўсе ставяцца з асцярогай: што цікавага ў тым, як мы елі? Як елі, так і ямо!

Пасля пачынаюць расказваць. Успамінаюць маладосць, распавядаюць пра сённяшні дзень.

Асабліва складана размаўляць пра пасляваенны перыяд. Часы былі галодныя. Многія хаты засталіся без мужчын, а без гаспадара было асабліва цяжка. Расказваюць, як у муку дадавалі лебяду і лубін, а пасля выпякалі хлеб. Ад многіх расказаў проста мурашкі па скуры бягуць.

Сучаснаму чалавеку цяжка ўявіць галодныя часы. Раней хлеб цалавалі, калі ён падаў. А пазней, калі пачалі выпякаць у прамысловых маштабах, яго сталі набываць мяхамі на корм жывёле.

**– Ці часта цяпер гатуюць у печы?**

– Вядома, у многіх газавыя пліты. Але калі пякуць булкі на святы – то менавіта ў печы. Да духовак прызвычаіцца складана.

**– А што елі на Мядзельшчыне на салодкае, акрамя булак?**

– Зразумела, што выбар прысмакаў быў куды бяднейшы. Раней асноўнымі былі мучныя.

Булка часцей выпякалася на святы, і з гэтым працэсам звязаныя розная забабоны. Нельга было, каб падчас выпечкі ў хаце шумелі: ад гэтага булка магла патрэскацца. А калі нехта сядзеў на пячы падчас гатавання – булка атрымлівалася прыплюснутая.

У нас на Мядзельшчыне ёсць **Ядвіга Адольфаўна Руткевіч**, якая выпякае неверагодныя каравай! На вяселлі робіць іх у форме лебедзяў, дамікаў. Сама яна гаворыць так: што ўначы прысню, тое назаўтра і выпякаю. Я брала ў яе майстар-класы па выпечцы.



Фота забяспечана Эльвірай МІСЕВІЧ.

Этнограф Эльвіра Місевіч вывучае мядзельскую кухню, размаўляючы з жыхарамі раёна.



Фота забяспечана Эльвірай МІСЕВІЧ.

Ядвіга Адольфаўна Руткевіч са Свіры гаворыць, што ідэі новых караваяў прыходзяць да яе ў снах.

**– Ці бывала так, што вы заходзілі да бабулі запісаць традыцыйны рэцэпт, а на кухні бачылі, скажам, сасіскі?**

– Вядома, бывала. Людзям сталага веку цяжка гатаваць самім, таму часам даводзіцца купляць гатовыя прадукты ў крамах.

Але тыя стравы, пра якія яны распавядаюць, самі робяць часта. У іх ёсць пэўная настальгія па тых часах. Да таго ж гэта звыклыя для нашых бабуль стравы, ад якіх ужо немагчыма адмовіцца.

**– А вы самі гатавалі па рэцэптах, якія запісваеце?**

– Так, разам са сваёй бабуляй. Мне вельмі цікава дапамагаць ёй на кухні. Памятаю, як рабілі кілбасы, а пасля сушылі іх на печы. На смак атрымліваецца проста выдатна!

### Бульба на Мядзельшчыне ніколі не была другім хлебам

**– Ці былі ў гісторыі нашай кухні нейкія пераломныя моманты?**

– Народная кухня вельмі змянілася пасля 1960-х гадоў, пасля калектывізацыі. У селяніна застаўся толькі невялікі агарод, кухня абяднела. Перавагу аддавалі збожжавым культурам.

**– Якую ролю ў мядзельскай кухні займае бульба?**

– Бульбу ў нас ніколі асабліва не вырошчвалі. Казалі, што бульба – гэта жыдзель, некаларыйная ежа, "яе што з'еў, што міну".

Большае месца ў рацыёне займалі буракі і капуста. Суп, звараны з гэтай гароднінай, так і называлі – буракі ці капуста. Такіх назваў, як боршч ці шчы, не існавала.

**– Ці можна народную кухню назваць здаровым харчаваннем?**

– Я думаю, што так. Папершае, у ёй не выкарыстоўваюцца ніякія араматызатары і ўзмацняльнікі смаку. Па-другое, усе прадукты былі свае, з уласнага агарода ці падворка. Ды і мяса ўжывалі меней, больш было вадкіх страваў, лёгкіх для стрававання.

**– Традыцыйная кухня сёння вытрымае канкурэнцыю з фастфудам?**

– Людзі сярэдняга ўзросту і моладзь не змогуць уявіць свайго жыцця без гатовых страў, якія можна набыць у краме. Але калі задаю пытанне, што б яны выбралі – піцу ці дранікі, то большасць хацела б дранікаў.

Бабулі кажуць, што ўнукі, калі прыязджаюць з горада ў вёску, заўсёды патрабуюць менавіта звычайнай ежы, тых жа дранікаў. Яны настолькі наеліся фастфудамі, што хочуць ад іх адпачыць.

Фастфуд і традыцыйная кухня будуць суіснаваць. Яны могуць не перакрэсліваць адзін аднаго, а развівацца паралельна.

**– Як разам з кухняй мяняецца застольны этыкет?**

– Раней сям'я абавязкова збіралася разам за сталом. Спачатку елі дарослыя, пасля дзеці. На чале стала сядзеў гаспадар. І нічога не замінала харчаванню. Цяпер у кожнага сваё рытм жыцця. А ўвага за сталом часта пераключаецца на тэлевізар ці газету.

**– Традыцыйная рэгіянальная кухня прыцягвае беларусаў сёння?**

– Цяпер якраз развіваецца агратурызм, я бачу гэта і на Мядзельшчыне. Думаю, многія рэцэпты зацікавілі б гаспадароў аграсядзібаў.

**Больш фота на сайце rh.by**



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

ГІСТОРЫЯ

# Вёскі, назвы якім даў кароль Баторы

**ВІЛЕЙКА. Мільча – невялікая, на першы погляд, нічым непрыкметная вёска ў Вілейскім раёне. Хто б мог падумаць, што з яе пачнецца цікавае падарожжа па даўгінаўскіх наваколлях.**

Так атрымалася, што наша вандроўка супала са святам Раства Багародзіцы. А ў такія святы жыхароў вёскі, як вядома, можна сустрэць ля царквы.

## Вандалы не дачакаліся сваёй смерці

На доўгай лаве размясцілася амаль палова вёскі. Нехта з прысутных распачынае бяседу:

– Ці памятаеце вы, як нашу царкву зачынялі ў 64-м?

– Як не помніць? 9 чэрвеня 1964 года стаў чорным днём для мільчанскай царквы, – уступае ў гаворку мясцовая жыхарка. – Нас тады, усіх дзяўчат, пагналі ў калгас на буракі, каб не бачылі, як крыжы і званы з царквы здымаць будуць. Мы, калі даведаліся пра гэта, пахапалі матыкі і бягом у вёску, сталі кідаць камянямі ў тых, хто буры́ў царкву, ды толькі нічога зрабіць не маглі.

– Але што цікава, ніхто з тых, хто бурыў царкву, сваёй смерцю не памёр. Вось і не вер, што Бог пакараў за злачынствы, – дадае **Пётр Цыгалка**, мясцовы жыхар. Толькі 21 верасня 1993 года царква была адкрытая зноў.

Яна за доўгі час (а гісторыю вядзе аж з 1687 года) свайго існавання перажыла шмат чаго. Да сённяшняга дня захаваліся іконы, сведкі адной жудаснай гісторыі.

## Пакінулі злачынца сабакам

– Калі была апошняя вайна, то недалёка ад Мільчы знаходзілася партызанская брыгада “Жалязняк”, – працягвае Пётр Цыгалка. – Былі ў ёй і нашы мясцовыя жыхары. У той жудасны дзень трое з іх – Баландзін, Кузьмін, Шаранговіч – прыйшлі ў вёску ў разведку. Рыхтавалася наступленне на Даўгінава. Уварваліся яны ў царкву і пачалі буяніць.

З аўтамата стралялі па дзвюх іконах, нарабілі іншай бяды. Назаўтра прыйшоў камандзір з атрадам у 30 чалавек, прывялі вінаватых. Нас усіх, жыхароў вёскі, сабралі у доме ля царквы. Баландзін і Шаранговіч былі мясцовыя, за іх заступіліся жыхары вёскі. А Кузьмін быў прыезджы. Яму злачынствы яго ніхто дараваць і не збіраўся.

Камандзір сказаў: “Расстраляць гада!” Я добра памятаю, як толькі адзін чалавек з атрада пагадзіўся гэта зрабіць, усе адмаўляліся. Страляў у патыліцу, потым камандзір даў загад разыходзіцца, а цела так і пакінуць, каб разарвалі сабакі. “Сабаку і сабачая смерць!” – сказаў камандзір, і атрад пакінуў вёску. Ноччу адвезлі цела ў вёску Саланое і там пахавалі на могілках.

Вядомая вёска яшчэ адным чалавекам. Расціслаў Лапіцкі жыў і вучыўся ў Мільчы, калі яго бацька, Аляксандр Лапіцкі, быў прызначаны ў мільчанскую царкву святаром. Да сённяшняга дня захаваўся будынак школы, у якой вучыўся Расціслаў.

Нам пашчасціла, бо адным з нашых спадарожнікаў быў аднакласнік Расціслава **Аркадзь Кур’яновіч.**

– Я добра памятаю Расціслава. Памятаю, як хлопцамі бегалі да іх у госці. Чамусьці запомнілася, што ў зале стаяў раяль – нябачаная раскоша!

Развітаўшыся з Мільчай, мы рушылі далей, на Вардамічы.

## Не дажыла да 30, але атрымала прызнанне

На самым краі вёскі стаіць вялікі драўляны дом. Калі вы вырашыце наведаць Вардамічы, вы ніколі яго не праміняце. А нам пашчасціла не толькі ўбачыць гэты дом, але і пазнаёміцца з яго цудоўнымі гаспадарамі.

Але спачатку пра дом. Як гаворыць пра людзей, што знешнасць можа быць падманнай, так і гэты дом. Ну ці скажаш, што пад драўляным домам можа знаходзіцца вялізны цагляны склеп, зроблены па ўсіх канонах будавання палацаў? Тут і невялічкія байнічкі пад самым дахам, і шмат хадоў, якія, праўда, цяпер закрытыя, але і сам гаспадар **Іосіф Мацко** не ведае, куды гэтыя хады могуць прывесці.

А яшчэ ў гэтай самай хаце ў 1866 годзе нарадзілася **Марыя Віткоўская**, якую тут, у Вардамічах, называюць сваёй першай святой. Марыя Віткоўская пражыла нядоўгае жыццё, усяго 29 гадоў, прысвяціла сябе служэнню Богу. У 1996 годзе каталіцкай царквой пачаўся працэс яе беатыфікацыі (абрад прылічэння памерлага да ліку блаславёных у каталіцкай царкве), які цяпер працягваецца ў Рыме.

А ў месцы нараджэння памятаюць пра яе. У гаспадароў у пакоі вісіць партрэт Марыі Віткоўскай. Яны з задавальненнем паказваюць яго сваім гасцям і кажуць, што яна іх аберагае.



Фота Наталлі ТУР.

Іван Камінскі і Аркадзь Кур’яновіч. У гутарцы ажываюць успаміны.

## Саланое – вёска з самымі салодкімі грушамі

Нягледзячы на такую “салёную” назву вёскі, я з усёй адказнасцю магу сказаць, што самыя салодкія грушы растуць тут. Ласуючыся салодкімі і сакавітымі грушамі, вядзём размову з **Пятром Цыгалкам**, маладзечанцам, краязнаўцам.

**– Адкуль у вёскі такая “салёная” назва?**

– Назву гэтым мясцінам даў Стэфан Баторы. Калі верыць легендам, якія ўпершыню запісаў Ігнат Ходзька, Стэфан Баторы, прыехаўшы ў гэтыя месцы, частаваўся яешняй, якую яму прыгатавалі мясцовыя жыхары. Яна аказалася салёнай. Адсюль і назва. Мільча таксама абавязаная сваёй назвай Стэфану Баторыю. “Маўчаць!” – сказаў камусьці ён, а на польскай мове гэта гучала, як “мільч”. Так з лёгкай рукі караля гэтыя мясціны набылі свае трапныя назвы.

Але ўсё рана ці позна заканчваецца: грушы з’едзеныя, тэмы для размоў вычарпаныя, але падарожжа, пакуль існуе дарога, не спыняецца. І хто ведае, куды яна прывядзе нас у наступны раз…



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# “Маладзечна-2013” губляе шанец скончыць сезон у першай пяцёрцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэта стала відавочна пасля гульні з камандай “Асіповічы”, якая скончылася для маладзечанцаў паражэннем 4:1**

Гульня адбылася ў нядзелю, 27 кастрычніка.

Маладзечанцы ліха пачалі гульню. Першага ў пачатку была на баку каманды з Маладзечна. Бліжэй да экватара першага тайма маладзечанцы пачынаюць губляць тэмп, чым не прамінулі скарыстацца сапернікі. На 31-й хвіліне матча першы мяч трапіў у вароты нашага галкіпера. Адразу ж пасля гола галоўны трэнер каманды “Маладзечна-2013” **Дзяніс Мятліцкі** робіць першую замену. Поле пакідае **Аляксандр Філановіч**, на змену яму выходзіць **Дзяніс Жыліч.**

Магчыма, мне падалося, але пасля гэтага гола маладзечанцы зусім зніклі. Атакі былі, але няўпэўненыя, і мяч трапляў дакладна ў рукі варатара каманды Асіповічаў.

Сцэнар другога тайма паўтарыўся з дакладнасцю. Першыя хвілін 15 маладзечанцы атакуюць, ствараюць вострыя моманты, але да жаданага выніку гэта не прыводзіць. Ці то атакі былі недастаткова вострыя, ці то варатар Асіповічаў быў надта пільны.

На 75-й хвіліне яшчэ адзін мяч трапляе ў нашы вароты.

Не прайшло і пяці хвілін, як трэці мяч апынуўся ў варотах маладзечанцаў. Трэнер каманды Маладзечна адгукаецца на гэта шматлікімі заменамі, але малюнак гульні, на жаль, не ўратоўвае. Гульцы “Маладзечна-2013” зніклі зусім. За гульнёй сачыць зусім нецікава. Гледачы пачынаюць пакідаць трыбуны.

80-я хвіліна матча робіць лік разгромным – 4:0. Вельмі прыгожая атака Асіповічаў. Маладзечанцам, быццам у запаволенай здымцы, застаецца толькі правесці вачамі мяч, што ляціць у вароты, і развесці разгублена рукамі.

Ад гульні ўжо ніхто нічога не чакае, трыбуны імкліва пусцеюць.

Але трэба аддаць належнае камандзе Маладзечна, гульцы так проста не здаліся без бою.

Нападаючы каманды **Андрэй Шаблінскі** не дазваляе сваёй камандзе прайграць “усухую” і на 86-й хвіліне робіць лік сустрэчы 4:1.

Каментуе гульню галоўны трэнер каманды “Маладзечна-2013” **Дзяніс Мятліцкі.**

**– Што пайшло не так? Чаму другая гульня запар заканчваецца паражэннем?**

– Не забіваем, вось і прайграём. Прычына, якая відавочная для мяне, у тым, што мы два таймы паказваем дзве розныя гульні. Мы ў другім тайме гулялі мацней за саперніка, але вынік вы ведаеце і без мяне.

**– Дзяніс Мікалаевіч, а чым апраўданыя вашы эксперыменты са складам гульцоў?**

– Эксперыменты? (усміхаецца). Нагадаю, што па правілах на полі павінен знаходзіцца гулец 1994 года нараджэння. Наш абаронца **Аляксей Ціхановіч** сур’ёзна траўмаваны, замест яго гуляе **Мікіта Струкаў.** Каб замяніць Мікіту, я быў вымушаны замяніць варатара. **Андрэй Пуляк**, наш галкіпер, таксама 1994 года нараджэння.

Да таго ж, у камандзе ёсць людзі, якія не гатовыя былі гуляць. Лічыце гэта маёй трэнерскай метадыкай. Я не мог выпусціць на поле тых, хто аднойчы падвёў каманду. Так, на мінулым тыдні некаторыя проста не з’явіліся на гульню з камандай Віцебска.

**– Ці праўда тое, што ў каманды не было трэніровак аж са жніўня?**

– Шкада, але гэта праўда. Цяпер вельмі кароткі светлавы дзень, каманда трэніравацца днём не паспявае. Мы сабе не можам дазволіць плаціць вялікія грошы за асвятленне стадыёна. Канешне, сыгранасці камандзе не хапае. Цяжка патрабаваць ад каманды вынікаў без належнага трэніровачнага працэсу.

**– Які настрой перад гульнёй са Жлобінам?**

– Бадзёры. Рыхтуемся. Я, як магу, падтрымліваю хлопцаў. Але нам будзе няпроста. Учора быў цяжка траўмаваны **Дзяніс Жбакоў.** Таму для нас падтрымка важная. Мне вельмі прыемна, што, нягледзячы на не заўсёды станоўчыя вынікі гульні, нашых заўзятараў на стадыёне не становіцца меней. Таму ўсіх чакаю ў сераду а 14 гадзіне на стадыёне. Заўтра будзе лепей, чым учора!

Калі я пакідала стадыён, да мяне падышоў аматар футбола, які пажадаў застацца невядомым, і сказаў: “Мы сумуем па камандзе таго Маладзечна, узору 90-х, калі трыбуны былі перапоўненыя, цікавасць да гульні была вялікая, а за каманду не было сорамна. А цяпер? І падтрымка ў каманды такая, што толькі пазайздросціць, і кіраўніцтва, і гульцы – усё ёсць. А гульні няма, і за гэту каманду сорамна. Як так?” Пытанне пакуль застаецца без адказу.

**Наталля ТУР.**




Фота Наталлі ТУР.

Першая атака маладзечанцаў. Так добра ўсё пачыналася.

СПАБОРНІЦТВЫ

## Падводная лодка ўсплыла ў школе



Фота Кацярыны ПІЛЬНІК.

Маладзечанец Арсень Варабей.

**МАЛАДЗЕЧНА. Адкрытыя міжабласныя спаборніцтвы па суднамадэльным спорце, прысвечаныя памяці контр-адміралаў Канаржэўскіх, прайшлі ў Маладзечне 26-28 кастрычніка.**

Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі “Маладзік” сустракаў 12 камандаў з Мінска, Маладзечна, Вілейкі, Слуцка, Салігорска, Фаніпаля, а таксама Гродна і Навагрудка. Сярод 61 спартсмена вылучалася прадстаўніца мінскай каманды “Палац-1” Вольга Ермакова, і не толькі тым, што была адзінай дзяўчынкай, але і сваім вынікам – трэцяе месца ў класе Е-600.

Таксама адзначылі братоў Алега і Паўла Койпішаў з Салігорска. На пару яны атрымалі пяць медалёў. Алег стаў пераможцам у класе стэндавых мадэляў і Е-900. Свой мінаносец “Мэн” ён будаваў два гады. Удалае выступленне братоў прынесла камандзе Салігорска трэцяе месца.

Цягам трох гадоў каманда маладзечанцаў была пераможцай, але сёлета яны саступілі першынство Слуцку. Другое месца ў класе падводных лодак заняў наш спартсмен **Антон Троцкі**. З гэтай мадэллю ён не ўпершыню ўдзельнічае ў спаборніцтвах, і гэта не лепшы яго вынік. У верасні юнак заняў другое месца ў Кубку Беларусі “Залатая восень-2013” і выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту. Цяпер ён плануе пабудаваць яшчэ адну падводную лодку, толькі большых памераў.

Два медалі заваяваў 11-гадовы **Арцём Шахно**. Ён займаецца стэндавым мадэлізмам з пяці гадоў, і за гэты час стварыў больш за 20 мадэляў караблёў, самалётаў, танкаў і іншай тэхнікі. Сярод іх ёсць любімая – авіяносец “Немец”, з якім ён стаў пераможцам ў рэспубліканскіх спаборніцтвах “Залаты стапель-2013”. Да гэтай справы хлопчыка далучыў бацька, **Віталь Шахно**, які кіруе гуртком у “Маладзіку”.

Самы малады ўдзельнік спаборніцтваў – 9-гадовы маладзечанец **Антон Марцінкевіч**. Ён вельмі ўдала выступіў. Аднак яму трохі не хапіла да прызавога месца. За хлопчыка вельмі рады яго кіраўнік **Мікалай Хрэшчык**, а таксама яго бацька, які калісьці займаўся тэхнічнай творчасцю, а цяпер прывёў сына на заняткі да свайго былога педагога.

У наступны раз спартсмены збяруцца ў Маладзечне вясной на адкрытым чэмпіянаце Мінска і Мінскай вобласці на адкрытай вадзе.

**Аліна ЛІТВІНЕНКА, школа журналістыкі “Маладзік”.**

НАВІНЫ

### Чарговая перамога ФК “Смаргонь”

**СМАРГОНЬ.** У матчы 26-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб “Смаргонь” гуляў 26 кастрычніка дома з “Іслаччу”.

На матчы прысутнічала 600 гледачоў, паведамляе сайт fc-smorgon.by.

Клуб “Смаргонь” перамог з лікам 4:2. Хоць госці адкрылі лік на трэцяй хвіліне, ужо да канца тайма смаргонцы забілі чатыры галы: вызначыліся **Шмігера**, двойчы **Крот** і затым **Рындзюк**.

### “Маладзечна-ДЮСШ-4” выйграе 7:0

**МАЛАДЗЕЧНА.** 26 кастрычніка “Маладзечна-ДЮСШ-4” праводзіла чарговы матч чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. Маладзечанцы ў гасцях сустракаліся з “Аграсэрвісам” са Слуцка.

Гульцы з Маладзечна разграмілі сапернікаў: забілі сем галоў. Тройчы вызначыўся **Вышынскі**, па адным разе – **Новікаў**, **Фядотаў**, **Майсяёнак**, **Краскоўскі**, паведамляе сайт Мінскай абласной федэрацыі футбола.

У турнірнай табліцы “Маладзечна-ДЮСШ-4” вярнулася на трэцяе месца.

Матч паміж “Забудовай-2007” і “ Жодзіна-2007” перанесены на 3 лістапада.

### “Вілія”: перамога

**ВІЛЕЙКА.** У чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе “Вілія” 26 кастрычніка дома гуляла з камандай БСЗ (Бярэзінскі раён). Нарэшце вілейскія футбалісты атрымалі перамогу: матч завяршыўся з лікам 3:2 на іх карысць.

– Па гульні нашы футбалісты глядзеліся нядрэнна, добра камбінавалі. Хаця госці напрыканцы матча маглі і зраўняць лік, – расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

### У чэмпіянаце ідуць вырашальныя гульні

**ВІЛЕЙКА.** Прапушчаны матч чэмпіянату Вілейскага раёна па футболе не адбыўся. Камандзе “Буддэталі” залічана тэхнічнае паражэнне 0:3 за няяўку на гульню з “Першым Беларускім”.

Такім чынам, двухкругавы турнір з 31 ачкамі выйграла каманда “Першы Беларускі”, на другім месцы – “Буддэталі” (27 ачкоў), на трэцім – “Фламетр” (26).

Далей спаборніцтвы ў чэмпіянаце працягнуліся па сістэме плэй-оф: 27 кастрычніка адбыліся паўфіналы.

І хоць лідары чэмпіянату выйгралі, але лёгкай прагулкі ў паўфіналах у іх не атрымалася. “Першы Беларускі” абыграў “Чурлёны” з лікам 3:2, а “Буддэталі” перайгралі “Фламетр” 4:2. Пераможцы гэтых гульняў сустрэнуцца ў фінале, прайграўшыя – у матчы за трэцяе месца.

### Поспех валейбалістаў

**МЯДЗЕЛ.** У Маладзечне 26 кастрычніка прайшлі занальныя спаборніцтвы спартыўных цэнтраў фізкультурна-аздараўленчай работы, фізкультурна-аздараўленчых цэнтраў і фізкультурна-спартыўных клубаў. Спаборніцтвы праводзіліся па міні-футболе, валейболе, настольным тэнісе.

Мядзяльчане найлепш выступілі ў валейболе, паведаміў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Леанід Шыдлоўскі**. Мужчынская зборная заняла першае месца і выйшла ў фінал абласных спаборніцтваў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВУЧАННЕ

# Цяпер у каледжы гатуюць і сушы



Фота Святланы МАЦУКЕВІЧ.

Падчас прыгатавання ролаў.

**ВІЛЕЙКА. Майстар-клас па прыгатаванні сушы правёў дырэктар Вілейскага прафесійна-тэхнічнага каледжа Ігар Кіцікаў у сераду, 23 кастрычніка.**

Яшчэ некалькі тыдняў таму, калі каледж ладзіў дранік-шоу, Ігар Кіцікаў гразіўся арганізаваць для навучэнцаў майстар-клас па прыгатаванні сушы. На шоу ён якраз прадэманстраваў новае прыстасаванне для прыгатавання ролаў (разнавіднасць сушы).

І вось цяпер, на майстар-класе, прыстасаванню знайшлося прымяненне. Ігар Кіцікаў ужо даўно займеў такую рэч дома і сам займаўся прыгатаваннем сушы. Таму яму было чым падзяліцца з навучэнцамі.

– Каб разнастаіць смак стравы, можна дадаць туды свежую гародніну, – дзяліўся досведам дырэктар каледжа. – А калі пры вырабе сушы выкарыстоўваць рыбу, засоленую сваімі рукамі, то можна добра зэканоміць.

### Як рабілі сушы

За аснову бралі норы – спрасаваныя высушаныя водарасці. На іх тоўстым пластом клалі вараны рыс і кавалачак прасоленай фарэлі. З дапамогай простага вафельнага ручніка ўсё гэта загарнулі ў тугі рол і нарэзалі.

Падалі страву з соевым соусам і лімонам, дарэчы, вырашчаным на лімонным дрэве ў бібліятэцы каледжа.

– Будучыя повары ў захапленні назіралі за майстар-класам, – кажа педагог-арганізатар **Святлана Мацукевіч**. – Некаторыя не пабаяліся і нават самі паспрабавалі зрабіць ролы.

Дарэчы, для прыгатавання сушы ў лабараторыю повараў каледж набыў яшчэ некалькі новых прыстасаванняў.

**Настасся РОЎДА.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | 2 | | | 9 | 7 | | |
| 1 | 8 | | 5 | | | | | 9 |
| | 9 | | 6 | | | 3 | | |
| | | | | | | 5 | | |
| 8 | | | | 4 | | | | 6 |
| | | 9 | | | | | | |
| | | 7 | | | 6 | | 2 | |
| 4 | | | | | 2 | | 1 | 7 |
| | | 8 | 1 | | | 9 | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



СВЯТА

# Прайшоў конкурс выпечкі "папскіх піражных"



Фота забеспечана Ірынай ЖАЛУБОЎСКАЙ.

Пачаставацца піражнымі маглі ўсе ахвотныя.

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю, 20 кастрычніка, у Нарацкай парафіі адзначылі Дзень памяці Благаслаўлёнага Яна Паўла ІІ.**

Сярод мерапрыемстваў быў і конкурс выпечкі "папскіх піражных" – "крэмувак", якія любіў Ян Павел ІІ. Хаця прынеслі гаспадыні з вёскі Нарач (Кабыльнік) розныя вырабы: ад печыва ад тартоў. Пачаставацца імі маглі ўсе ахвотныя.

– Прыкладна ўдзел у конкурсе каля 20 чалавек, – паведаміла **Ірына Шнітоўская**. – Іх старанне ацэньвала журы, якое ведае толк у кандытарскай справе. Узнагароджанне пераможцаў адбылося ў дзвюх катэгорыях: сярод моладзі і дарослых. Прызамі адзначылі ўсіх удзельніц, а пераможцаў – асабліва. Сама юная ўдзельніцай стала чацвёртакласніца **Наталля Смоўж**.

Падобны конкурс выпечкі прайшоў у вёсцы ўжо ў трэці раз. Нарачанцы спадзяюцца, што традыцыю правядзення конкурсу яны захаваюць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды "**Джасцін і рыцары доблесці**", 3D (Іспанія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
1 лістапада – 16.30
2 лістапада – 14.30, 16.30
3 лістапада – 14.00
4-6 лістапада – 19.00
7 лістапада – 14.30, 16.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Ваенная драма "**Сталінград**", 3D (Расія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
1 лістапада – 18.30
2 лістапада – 21.00
3 лістапада – 16.00, 18.30
5, 6 лістапада – 21.00
7 лістапада – 18.30
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Камедыя "**Горка!**" (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16)
1 лістапада – 21.00
2 лістапада – 19.00
3, 4 лістапада – 21.00
6 лістапада – 17.00
7 лістапада – 21.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама "**Трэзар**" (Францыя)
1 лістапада – 19.30
2 лістапада – 21.30
3 лістапада – 19.30
4 лістапада – 21.30
5 лістапада – 19.30
6 лістапада – 21.30
7 лістапада – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйнае фэнтэзі "**Монстры на востраве**" (Японія, Канада)
1 лістапада – 17.30
2, 3 лістапада – 15.00, 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Фантастыка, драма "**4:44. Апошні дзень на Зямлі**" (ЗША, Швейцарыя)
1 лістапада – 21.30
2 лістапада – 19.30
3, 5 лістапада – 21.30
6 лістапада – 19.30
7 лістапада – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на лістапад

РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ
"**Залатое сэрцайка**" (спектакль-гульня па матывах казак У.Арлова) Святлана Навуменка
1 пятніца 11.00

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ
"**Старая Зайчыха**" (меладрама) Мікалай Каляда
2 субота 17.00

**ГАСТРОЛІ Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа (г.Віцебск)**

"**Макбет**" (трагедыя ў 2-х дзеях) У.Шэкспір
4 панядзелак 19.00

"**Што баліць?**" (камедыя ў 2-х дзеях) Лявон Агулянскі
5 аўторак 19.00

"**Дажыць да прэм'еры**" (камедыя ў 2-х дзеях) Мікалай Рудкоўскі
6 серада 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Новы калабок** " (сучасная музычная казка). П.Васючэнка.
3 лістапада – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП (1-7 ЛІСТАПАДА)

**Авен.** Вам варта было б правесці карэкцыю свайго лёсу, запусціць праграму поспеху, удачы, дастатку. Але перш прывядзіце думкі і справы ў парадак.

**Цялец.** Як бы ні склаліся абставіны, памятайце пра цярпенне і ўнутраную дысцыпліну. Дома старайцеся трымаць язык за зубамі і не крыўдзіць нікога з родных.

**Блізняты.** Перыяд надзеліць вас спакойнай упэўненасцю ў сабе, светлай галавой і камунікабельнасцю, што дапаможа вам быць ва ўсёй красе і завязаць карысныя знаёмствы.

**Рак.** Асноўнай прычынай недамагання могуць стаць перажыванні з прычыны прафесійнай дзейнасці. Вам карысныя кантрасны душ, наведванне лазні. Старайцеся ва ўсім бачыць толькі станоўчае.

**Леў.** Старайцеся высыпацца, каб супакоіць нервовую сістэму, часцей бывайце на прыродзе і сачыце за якасцю прадуктаў, што вы ясце. А яшчэ навучыцеся "выдаляць" са сваёй галавы трывожныя думкі.

**Дзева.** Магчыма, адбудзецца нешта такое, што спрыяльна паўплывае на сітуацыю ў асабістым жыцці.

**Шалі.** Дазвольце падзеям развівацца самім па сабе і не старайцеся плысці супраць цячэння.

**Скарпіён.** Пазбягайце агрэсіўнасці і неабдуманых учынкаў. Каб мець больш шанцаў на поспех, будзьце бліжэй да зямных спраў. А калі хто назаве вас меркантыльным, то гэта ад зайздрасці.

**Стралец.** Даверцеся ўласнай інтуіцыі, яна падкажа, вырашэннем якіх праблем можна і трэба заняцца менавіта цяпер.

**Казярог.** Вам спатрэбіцца нямала пяшчоты і цярпення, умення згадзецца блізкага чалавека. Адзінокіх чакае сустрэча. Вось толькі працягваць адносіны, у якіх іскра не праскочыла ў першыя хвіліны знаёмства, бессэнсоўна, яны ўсё роўна не прывядуць ні да чаго.

**Вадалей.** Вам у галаву будуць прыходзіць цікавыя ідэі, пастарайцеся іх увасобіць у жыцці. А яшчэ расшырацца гарызонты вашага духоўнага ўспрымання, будзе развівацца інтуіцыя і артыстычныя навыкі.

**Рыбы.** Перыяд дазволіць вам раскрыць у сабе новыя таленты і здольнасці, у тым ліку даволі незвычайныя.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155





# Рэгіянальная газета



## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +6 / +9 | | +7 / +9 | | +11 / +11 | | +12 / +8 | |
| | 745 | ↑ 3 | 744 | ↖ 4 | 736 | ↑ 2 | 733 | ↑ 3 |
| Вільня | +4 / +8 | | +5 / +9 | | +9 / +13 | | +10 / +10 | |
| | 752 | ↗ 5 | 748 | ↑ 5 | 743 | ↗ 4 | 741 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.17
Захад 17.35
Даўжыня дня 9.18

Усход 06.42
Захад 17.00
квадра 4




## ПРЫКМЕТЫ

- 1 лістапада. Усе святыя – памінальны дзень у беларусаў-каталікоў. ("Па ўсіх святых – холад для ўсіх").
- 2 лістапада. У беларусаў-каталікоў Задушны дзень – працяг памінальных дзён.
- Калі дождж на Казанскую (4 лістапада) – хутка зіма.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці палепшыцца эканамічнае жыццё беларусаў у наступным годзе?



**Марыя Гарутка, пенсіянерка:**

– Кошты дакладна павысяцца, а заробкі – наўрад ці.



**Віктар Кацельнікаў, інжынер:**

– Наш бацька зробіць усё, каб наша краіна працвітала. Заробкі павысяцца, але, улічваючы сусветны крызіс, мяркую, што мы будем "плаваць" недзе на пяць працэнтаў вышэй, чым цяпер. Сярэдні заробак у будучым годзе будзе 550 долараў.



**Софія Сліж, пенсіянерка:**

– Заробкі павысяцца, толькі і кошты таксама. Але мой прагноз аптымістычны – жыць стане лепей.



**Валянціна Жук, пенсіянерка:**

– Будзем спадзявацца на лепшае. А калі гаварыць адкрыта: пенсіянеры і сёння ў Беларусі жывуць няблага. У наступным годзе таксама пенсіі будуць павышацца. Так што, усё будзе добра.



**Кацярына Аскірка, аператар ЭВМ:**

– Беларусь развіваецца. Будзе жыць толькі лепей. Кошты, канешне, не панізяцца, не памятаю, каб такое калісьці было. А заробкі, спадзяюся, расці будуць.



**Мікіта Мароз, інжынер-праграміст:**

– Не, не палепшыцца эканамічны стан грамадства. Кошты павысяцца, а заробкі панізяцца. Вось такі песімістычны прагноз.



**Міхаіл Іваноў, рабочы:**

– Сумняваюся, што нешта палепшыцца. Наш рубель ні да чаго непрыгодны. Зусім абясцэніўся. Пра яго паляпшэнне тады гаворка?

**Падрыхтавалі Настасся РОЎДА, Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як удалося Уладзіміру Калачыку зрабіць калгас "Светлы шлях" адным з найлепшых у Беларусі і СССР? Выбітны кіраўнік і сапраўдны гаспадар дзяліцца сваім каштоўным досведам.**



## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО

У грэчаскім тэатры была пасада рабдух. Яго абавязкам было біць палкай па спіне асабліва шумных гледачоў.

***

У сярэднім, ва ўсім свеце мужчыны жэняцца на жанчынах, якія на тры гады маладзейшыя за іх.

***

Маланка ў пяць разоў гарачэйшая за паверхню сонца.

***

У крэветак сэрца знаходзіцца ў галаве.

***

Кожныя сем секунд у свеце нараджаецца дзіця.

***

Адзін бераг ракі Урал знаходзіцца ў Еўропе, другі – у Азіі.

***

На востраве Сарк непадалёк ад Англіі (насельніцтва каля тысячы чалавек) афіцыйным ладам да 2008 году быў феадалізм.

***

У 12 стагоддзі многія еўрапейцы лічылі, што птушкі растуць на дрэвах, як лісткі.

***

Штогод памірае каля чатырох мільёнаў чалавек ад інфекцыі, якую выклікалі кепскія санітарныя ўмовы.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Фота Юрыя ГОРЫДА.

**Успаміны пра лета могуць грэць цэлы год!**



Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 44 (966) 1.11.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 994. Падпісана ў друк у 10.00 31.10.2013.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.